ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№1 (94) студзень 2019 год
CATHOLICNEWS.BY

# Вернікі парафіі ЕзусаМіласэрнага ў Віцебску збіраюць подпісы за вяртанне пробашча Паўла Кнурэка

Стар. 3

## Як падаваць міласціну?



Стар. 11

## Якую Біблію лепш набыць?




Стар. 13

Стар. 4

Сайт “Каталіцкага Весніка” займае першае месца паводле наведвальнасці сярод беларускамоўных сайтаў Віцебшчыны





# Пантыфік: прыгажосць узносіць сэрцы да Бога

**Прыгажосць вядзе людзей да Бога, падкрэсліў Святы Айцец, вітаючы калектыў кубінскіх цыркавых артыстаў, якія выступілі напрыканцы агульнай аўдыенцыі, 2 студзеня ў Ватыкане.**

"Я ны сваімі выступленнямі нясуць прыгажосць. Прыгажосць, якая патрабуе вялікіх высілкаў, і мы гэта бачылі, доўгіх трэніровак, пастаяннага развіцця… Але прыгажосць заўсёды ўзносіць сэрцы да вышыняў, прыгажосць робіць нас усіх лепшымі. Прыгажосць вядзе нас да дабрыні і вядзе таксама да Бога", – сказаў Папа.

Напрыканцы звароту Пантыфік заклікаў цыркавы калектыў з Кубы працягваць несці прыгажосць усяму свету.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Папа Францішак здзейсніць Апостальскае падарожжа ў Румынію

**У шэрагу міжнародных падарожжаў Папы Францішка ў 2019 г. з'явілася яшчэ адно: пасля паездкі ў Балгарыю і Македонію, абвешчанай на 5-7 мая, Папа выправіцца ў Румынію, паведаміла 11 студзеня Зала друку.**

У пераважна праваслаўнай краіне ён будзе знаходзіцца з 31 мая па 2 чэрвеня. Дэвіз Апостальскага падарожжа: "Ідзём разам!" На лагатыпе – Божы народ, які ідзе пад абаронай Багародзіцы. Выява сведчыць пра тое, што Румынію часта называюць "Садам Маці Божай". Гэту формулу выкарыстоўваў і Ян Павел II падчас свайго візіту ў краіну. Лагатып аформлены ў колерах нацыянальнага сцяга Румыніі: сінім, жоўтым і чырвоным.

Пантыфік наведае чатыры гарады: Бухарэст – сталіцу, дзе, магчыма, адбудзецца сустрэча з праваслаўным Патрыярхам Даніілам; Блаж, дзе ў 1795 г. быў выдадзены першы пераклад Бібліі на румынскую мову; Ясы – першую лацінскую дыяцэзію ў краіне, якую разам з Бухарэстам заснаваў у 1883 г. Леў XIII; а таксама Меркура-Чук, дзе знаходзіцца санктуарый – месца штогадовай пілігрымкі католікаў з Венгрыі і Румыніі.

Папа Ян Павел II наведаў Румынію 7-9 мая 1999 г. Тады адбылася гістарычная сустрэча з тагачасным праваслаўным Патрыярхам Феактыстам. Падчас Боскай літургіі ва ўсходнім абрадзе, якая праходзіла ў катэдры св. Юзафа ў Бухарэсце, ён ушанаваў сем грэка-каталіцкіх мучанікаў.




Найбольш распаўсюджанае ў Румыніі – праваслаўе. Паводле дадзеных агульнанацыянальнага перапісу 2002 г. да гэтай канфесіі аднеслі сябе 86,7% грамадзян. Католікаў лацінскага абраду тут каля 4,7%, грэка-католікаў – 0,9%, пратэстантаў – 6,5%.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Новыя бласлаўлёныя і святыя з'явяцца ў Каталіцкім Касцёле

**Папа Францішак ухваліў дэкрэты аб кананізацыйных і беатыфікацыйных працэсах. 15 студзеня 2019 года ён прыняў на аўдыенцыі прэфекта Кангрэгацыі па справах кананізацыі кардынала Анджэла Бэчу.**

Першы дэкрэт датычыцца прызнання цуду, здзейсненага праз заступніцтва бл. Маргарыты Бэйз, швейцарскай свецкай верніцы, панны, члена Трэцяга францішканскага ордэна.

Францішак ухваліў таксама дэкрэт аб прызнанні мучаніцтва Марыі-Дэль-Кармэн і трынаццаці яе паплечніц, законніц, забітых з нянавісці да веры ў 1936 г. падчас грамадзянскай вайны ў Іспаніі.

Яшчэ два дэкрэты датычацца прызнання гераічнасці цнотаў польскай законніцы Ганны Каворэк, сузаснавальніцы кангрэгацыі Сясцёр Святога Міхала Арханёла і пуэртарыканскай законніцы Марыі Саледад Санхурха Сантас з кангрэгацыі Служак Марыі Дапаможніц Хворым.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*



# Кангрэгацыя Веравучэння выдала дакумент на тэму гістэрэктаміі

**Папа Францішак ухваліў дактрынальны адказ Кангрэгацыі Веравучэння на маральны сумнеў, які датычыцца правамернасці гістэрэктаміі або выдалення маткі ў некаторых выпадках. Дакумент быў абнародаваны 3 студзеня 2019 года.**

Падкрэсліваецца, што дактрынальнае тлумачэнне тычыцца спецыфічных выпадкаў, якія не былі разгледжаны ў папярэднім дакуменце на гэту тэму – "Адказе на сумневы адносна стварэння непраходнасці матачных труб і на іншыя пытанні" (Risposte ai dubbi proposti circa "l'isolamento uterino" ed altre questioni) ад 31 ліпеня 1993 г.

Гэты дакумент, які застаецца правамоцным, "расцэньвае выдаленне маткі (гістэрэктамію) у тым выпадку, калі яна ўяўляе сур'ёзную пагрозу для жыцця ці здароўя маці, як маральна дапушчальнае, і расцэньвае як недапушчальнае, як спосаб прамой стэрылізацыі, выдаленне маткі і стварэнне непраходнасці матачных труб з намерам зрабіць немагчымай патэнцыйную цяжарнасць, каторая можа ўяўляць некаторую рызыку для маці".

Сумнеў, прадстаўлены на разгляд Кангрэгацыі Веравучэння ў гэты раз, датычыцца спецыфічных сітуацый, у якіх "дзетанараджэнне ў любым выпадку немагчымае".

На пытанне: "Ці дапушчальна выдаляць матку (праводзіць гістэрэктамію), калі матка знаходзіцца ў такім незваротным стане, у якім яна больш не прыдатная для дзетанараджэння, і медыцынскія эксперты з упэўненасцю заключаюць, што патэнцыйная цяжарнасць прывядзе да адвольнага выкідышу яшчэ да таго, як плод дасягне стану выжывальнасці за межамі ўлоння?", Кангрэгацыя Веравучэння адказвае: "Так, таму што гаворка не ідзе пра стэрылізацыю".

У тлумачальным тэксце падкрэсліваецца, што асноўным элементам для падобнага рашэння з'яўляецца "ўпэўненае заключэнне медыцынскіх экспертаў аб тым, што патэнцыйная цяжарнасць адвольна перапыніцца да таго, як плод дасягне стану выжывальнасці за межамі ўлоння". Такім чынам, справа не ў большых ці меншых рызыках, але ў нядзольнасці пары да дзетанараджэння.

Стэрылізацыя, якая з'яўляецца маральна недапушчальнай, заключаецца ў "перашкодзе функцыі рэпрадуктыўных органаў", гэта значыць у "адказе ад дзетанараджэння". У выпадку, які разглядаецца Кангрэгацыяй Веравучэння, рэпрадуктыўныя органы не ў стане "захававаць зачатае стварэнне". "Мэта пракрэатыўнага працэсу, – сцвярджаецца ў дакуменце, – заключаецца ў тым, каб нарадзіць на свет дзіця, а ў дадзеным выпадку нараджэнне жывога плода біялагічна немагчыма. Таму мы знаходзімся перад фактам ужо не рызыкоўнага ці недасканалага функцыянавання рэпрадуктыўных органаў, але перад аблічам сітуацыі, у якой адзіная мэта нараджэння жывога патомства недасягальная". "Выдаленне рэпрадуктыўнага апарату, няздольнага давесці да канца цяжарнасць, такім чынам, не можа быць расцэнена як прамая стэрылізацыя, што застаецца па сваёй прыродзе недапушчальнай як мэта і сродак", – гаворыцца ў дакуменце Кангрэгацыі Веравучэння.

Удакладняецца таксама, што дакумент не сцвярджае, нібыта ва ўзгаданых выпадках гістэрэктамія з'яўляецца найлепшым шляхам, але кажа толькі пра тое, што пры вышэйзгаданых умовах гэта маральна прымальнае рашэнне. Аднак яно не выключае іншых шляхоў, такіх, як поўнае ўстрыманне і метады распазнання плоднасці. "Сужэнцам у дыялогу з урачамі і духоўным кіраўніком належыць выбраць свой шлях, прыкладаючы да свайго выпадку і да сваіх абставінаў звычайныя крытэрыі паступовасці ўрачэбнага ўмяшальніцтва".

10 снежня 2018 года Папа Францішак ухваліў дадзены адказ і падчас аўдыенцыі для прэфекта Кангрэгацыі Веравучэння кардынала Франсіска Ладарыі Фэрэра распарадзіўся яго абнародаваць.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# Вернікі парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску збіраюць подпісы за вяртанне пробашча Паўла Кнурэка

**Парафіяне абвесцілі збор подпісаў пад зваротам да Упаўнаважанага па справах рэлігій і нацыянальнасцей Леаніда Гулякі.**

**Зміцрок Трай**



Яны просяць яго перагледзець рашэнне пра забарону на пастырскае служэнне ў Беларусі іх пробашча кс. Паўла Кнурэка. За адзін дзень вернікі сабралі каля 300 подпісаў.

"Мяркуем, што рашэнне аб непрацягненні дазволу на працу ў нашай краіне, прынятае Вамі ў дачыненні да нашага пастыра а. Паўла Кнурэка, занадта жорсткае і ў адносінах да нас, простых вернікаў і грамадзян Рэспублікі Беларусь. І вельмі прыкра, што гэта адбываецца ў юбілейны для парафіі год, бо сёлета мы адзначаем 20-годдзе кансэкрацыі касцёла Езуса Міласэрнага", – гаворыцца ў звароце да Упаўнаважанага.

Аўтары звароту пішуць, што рашэнне не працягнуць дазвол на служэнне а. Паўла выглядае тым больш дзіўна, што ў апошнія гады Беларусь яскрава дэманструе адкрытасць свету. Гэтак, у 2018 годзе указам Прэзідэнта быў павялічаны тэрмін бязвізавага знаходжання замежных грамадзян на тэрыторыі нашай краіны да аднаго месяца.

"І тады зусім незразумела, чаму чалавек, які больш за пятнаццаць гадоў адпрацаваў у Беларусі на ніве духоўнага адраджэння нашай Айчыны, пазбаўляецца права знаходзіцца і служыць на яе тэрыторыі. Упэўненыя, што такія забароны шкодзяць іміджу ўсёй краіны", – гаворыць парафіяне.

Пералічваючы заслугі святара перад нашай краінай, вернікі пішуць, што ніколі не ўспрымалі а. Паўла як "чужога" і "чужаземца". Ён цудоўна размаўляў па-беларуску і ведаў беларускую культуру не горш за іншага беларуса.

"Вядома ж, нам зразумелая палітыка дзяржавы, накіраваная на тое, каб у Беларусі служылі найперш святары-беларусы. Але і гэты аргумент – не супраць а. Паўла Кнурэка, бо з-пад яго крыла за час служэння ў Беларусі выйшла адразу некалькі беларускіх ксяндзоў – ягоных выхаванцаў. У яго сапраўдны святарскі дар. Але гэты чалавек цяпер далёка ад нас..." – выказваюць засмучанасць вернікі парафіі.

"Мы перакананыя, што для людзей, якія сеюць дабро, любоў і сапраўдную веру, Беларусь павінна заўсёды трымаць дзверы адчыненымі. З таго, што яны раптам зачыняюцца перад кімсьці, вынікае, на наш погляд, толькі шкода ды напружанасць у грамадстве", – гаворыцца ў звароце.

Парафіяне патрабуюць перагледзець рашэнне аб непрацягненні дазволу служэння ў Беларусі кс. Паўлу Кнурэку і дазволіць яму вярнуцца ў сваю парафію. А таксама патлумачыць канкрэтныя прычыны, з якіх гэты дазвол не быў дадзены.

Вернікі кажуць, што, калі атрымаюць на зварот адмоўны адказ альбо адпіску, будуць скардзіцца ў Адміністрацыю Прэзідэнта. Паведамілі таксама, што подпісы пад зваротам неўзабаве можна пакінуць і на інтэрнэт-пляцоўцы Petitions.by, дзе маецца электронны варыянт петыцыі.

Пробашч каталіцкай парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску ксёндз Павел Кнурэк праслужыў у Віцебску крыху больш за год. У лістападзе 2018 году ён быў вымушаны пакінуць краіну, бо не атрымаў дазволу на далейшае служэнне ў Беларусі. Раней святар больш за пятнаццаць гадоў узначальваў парафію святога Апостала Андрэя ў Лынтупах (Пастаўскі раён).

# Пробашчу касцёла ў Салігорску забаранілі служыць у Беларусі

**Польскі святар-францішканін 20 гадоў служыў у парафіі, удзельнічаў у будаўніцтве храма.**

Як паведамляе katolik.life, у рыма-каталіцкую парафію святога Францішка ў Салігорску прыйшла сумная навіна — пра забарону пробашчу айцу Сабеславу Тамалу OFM, паляку, ажыццяўляць рэлігійную дзейнасць з 31 студзеня.

– Навіна ашаламіла многіх людзей! Прычына такога рашэння невядомая, яе проста не называюць. Зараз парафіяне збіраюць подпісы пад зваротам у Савет Міністраў Беларусі да ўпаўнаважанага па справах рэлігіі і нацыянальнасці Леаніда Гулякі з просьбай аб падаўжэнні нясення пастырскага служэння ў парафіі для айца Сабеслава. Збор подпісаў працягваўся да 16 студзеня. Ён ажыццяўляўся з блаславення арцыбіскупа, Мітрапаліта Мінска-Магілёўскага Тадэвуша Кандрусевіча. Бо салігорскі каталіцкі храм у хуткім часе можа застацца без пастыра, – паведамляюць парафіяне.

Яны адзначаюць, што айцец Сабеслаў вельмі патрэбны парафіі. 20 гадоў ён служыць у Салігорску, удзельнічаў у будаўніцтве касцёла, шмат што ў храме зроблена яго рукамі.

*Katolik.life*





# У Маскве з'явіцца чацвёрты каталіцкі храм

**Улады выдзелілі ўчастак для будаўніцтва першага ў горадзе храма Армянскай каталіцкай царквы.**

У сталіцы Расіі з'явіцца храм і рэлігійна-культурны цэнтр Армянскай каталіцкай царквы (АКЦ). Рашэнне пра выдзяленне ўчастка пад будаўніцтва аб'ектаў прыняла горадабудаўніча-зямельная камісія Масквы на чале з мэрам Сяргеем Сабяніным. Зямельны ўчастак плошчай 0,7 га размешчаны ў паўднёвым Бутаве на скрыжаванні вуліц Адмірала Лазарава і Акадэміка Пантрагіна. Участак будзе перададзены супольнасці Святога Грыгора Асветніка АКЦ у бязвыплатнае карыстанне тэрмінам на дзевяць гадоў, паведамляе Маскамбудінвест. Мяркуецца, што агульная плошча храма складзе да 1000 квадратных метраў.

Пакуль у Маскве функцыянуюць тры рыма-каталіцкія храмы, у адным з іх, саборы Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі на Малой Грузінскай, армяне-католікі праводзяць зараз набажэнствы.

Армянская каталіцкая царква – адна з 22 усходнекаталіцкіх цэркваў, якая прызнае кіраўніцтва Папы Рымскага і знаходзіцца ў поўнай еднасці з Рыма-Каталіцкім Касцёлам, пры гэтым выкарыстоўвае ў набажэнстве армянскі абрад. На дадзены момант у Маскве няма ніводнага храма АКЦ: яны былі зачыненыя ў савецкія гады камуністычнымі ўладамі.

*Katolik.life*

# Чарговую прэмію “За духоўнае адраджэнне” атрымалі прадстаўнікі Касцёла ў Беларусі




**9 студзеня ў Палацы Рэспублікі ў Мінску адбылося ўручэнне прэмій “За духоўнае адраджэнне” па выніках 2018 г. Сярод лаўрэатаў – прадстаўнікі Касцёла ў Беларусі.**

Па выніках мінулага года прысуджаны чатыры прэміі “За духоўнае адраджэнне”. Імі адзначаны працоўныя калектывы і прадстаўнікі рэлігійных аб’яднанняў за актыўную дзейнасць у гуманітарнай сферы.

Сярод іншых, прэмія прысуджана калектывам Біблейскай камісіі Беларускай Праваслаўнай Царквы і Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла камісіі Божага культу і дысцыпліны сакрамантаў пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі за пераклад з арыгінальных моваў і выданне кніг Новага Запавету на беларускай мове, што спрыяе ўзбагачэнню духоўнай спадчыны.

Такім чынам, прадстаўнікі Касцёла ў Беларусі ўжо ў шосты раз атрымалі прэстыжную ўзнагароду ад кіраўніка дзяржавы.

У 2005 г. пробашч парафіі св. Ганны ў в. Мосар кс. Ёзас Булька стаў першым беларускім каталіцкім святаром, узнагароджаным прэміяй “За духоўнае адраджэнне”. Гэтай прэміяй у розныя гады былі таксама адзначаны і іншыя прадстаўнікі мясцовага Касцёла: біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін (2006 г.), рэжысёр Юрый Гарулёў (2006 г.), дырэктар віцебскага аддзялення Caritas Віталь Кульпекша (2013), пробашч парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Росіцы кс. Чэслаў Курэчка MIC (2016 г.).

Па выніках 2018 г. прэмія “За духоўнае адраджэнне” ўручана Секцыі па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла камісіі Божага культу і дысцыпліны сакрамантаў пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, у склад якой увайшлі кс. доктар Ян Крэміс, доктар Марына Пашук, кс. ліц. Валерый Быкоўскі, кс. ліц. Аркадзь Куляха OCD, кс. ліц. Ян Кучынскі, кс. ліц. Ігар Лашук, кс. Францішак Кісель, маг. Антон Кузьміч, Марыя Барткова.

Праца калектыву ўключала ў сябе не толькі карпатлівы пераклад тэкстаў Бібліі, але і актыўны ўдзел чальцоў групы ў сімпозіумах, канферэнцыях, круглых сталах і выставах.

Адной з апошніх навукова-культурных падзей стала выстава “Беларусь і Біблія”, якая прайшла ў верасні–кастрычніку мінулага года ў Мінску ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Каталіцкі Касцёл тады выступіў кампетэнтным партнёрам і актыўным удзельнікам навуковых круглых сталоў, што сабралі прадстаўнікоў розных канфесій, прафесій і узростаў, якія прыехалі з блізкага і далёкага замежжа. Уласная пазіцыя і абгрунтаванасць навуковых высноў у сферы біблейскай герменеўтыкі выклікалі павагу ў сусветнай навуковай супольнасці.

Праца секцыі з’яўляецца прыкладам у сферы праявы ініцыятываў развіцця духоўных каштоўнасцяў. Вынікам гэтай працы стала яе прызнанне кіраўніком дзяржавы.

Падчас цырымоніі ўручэння прэмій “За духоўнае адраджэнне” па выніках 2018 г. Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ў сваёй прамове адзначыў: “Лаўрэаты прэміі “За духоўнае адраджэнне“ – людзі, якіх аб’ядноўвае высакароднае імкненне зрабіць свет больш добрым і прыгожым. Калі ўдумацца глыбей, то само паняцце „духоўнае адраджэнне“ для беларускага народа не проста прыгожая метафара – гэта гімн лёсу беларускага народа. Шмат выпрабаванняў выпала на долю нашай роднай зямлі. Але яна заўжды адраджалася і пачынала квітнець яшчэ больш. Стагоддзямі выхоўваўся і гартаваўся наш нацыянальны характар. Мы сталі больш мудрымі, талерантнымі, а самае галоўнае – больш моцнымі ў сваёй веры ў дабрыню”, – сказаў кіраўнік дзяржавы.

Ён таксама дадаў, што ва ўмовах, калі свет траціць духоўныя арыенціры, мы імкнёмся захаваць унутраную чысціню. “І гэта адбываецца не само па сабе, а дзякуючы асабістаму прыкладу і актыўнай дзейнасці цудоўных людзей з вялічнымі ідэямі, высакароднымі памкненнямі. Людзей шчырых і бескарыслівых у сваіх справах. Іх праца не вымяраецца лічбамі і нейкімі эканамічнымі паказчыкамі. Яна не мае цаны і, безумоўна, заслугоўвае прызнання дзяржавы на самым высокім узроўні, павагі і ўдзячнасці ўсяго беларускага народа”,– падкрэсліў Аляксандр Лукашэнка.

*кс. Францішак Рудзь, Catholic.by*

*Фота: www.president.gov.by*

# Сайт “Каталіцкага Весніка” займае першае месца паводле наведвальнасці сярод беларускамоўных сайтаў Віцебшчыны

**Пра гэта заявіў журналіст Зміцер Казакевіч падчас абласной канферэнцыі “Беларуская дзяржаўнасць. Гісторыя і сучаснасць”, якая прайшла ў Віцебску 5 студзеня 2019 года.**

**Зміцер Лупач**

У сваім дакладзе “Хто робіць наша не нашым” ён паведаміў, што паводле сэрвісу Similarweb, сайт “Каталіцкага Весніка” меў, напрыклад, за лістапад 2018 года каля 35,5 тыс. наведнікаў. Гэта найлепшы вынік сярод рэсурсаў, якія працуюць у рэгіёне пабеларуску. Крыху вышэйшую наведвальнасць мае рэгіянальны партал Orsha.eu, але ён двухмоўны.

Паводле выступоўцы, сайт “Каталіцкага Весніка” паводле наведвальнасці толькі крыху саступае электроннай версіі газеты “Витебские вести”, якая ў кастрычніку мела больш за 40 тысяч наведвальнікаў. Але гэты рэсурс працуе выключна на рускай мове.

Канферэнцыя “Беларуская дзяржаўнасць. Гісторыя і сучаснасць” узняла пытанні станаўлення беларускай нацыі, утварэння беларускай дзяржаўнасці, перспектываў яе захавання ва ўмовах расійскага эканамічнага і інфармацыйнага ўплыву. Арганізавалі яе прадстаўнікі гарадской дэмакратычнай супольнасці. Канферэнцыя прайшла ў Віцебскай абласной бібліятэцы.



Удзельнікі канферэнцыі. *Фота Змітра Лупача*




Зміцер Казакевіч. *Фота Ігара Мацвеева*

# Читательский отклик на статью
# “У чым галоўная праблема Касцёла ў Беларусі?”
## “Каталіцкі Веснік” №12(93)

**Слава Иисусу Христу!**

**О себе. Не собиралась писать, так как я человек малообщительный, легко во всём принимающий обвинения в свой адрес, не умеющий за себя постоять. Мне 55 лет. Периодически теряю работу по инициативе претендентов на моё место, не смотря на высшее образование по двум специальностям – БГУ, БГПУ (математика, информатика).**



№12(93)
снежань 2018 г.
Каталіцкі ВЕСНІК

У чым галоўная праблема Касцёла ў Беларусі?
Гутарка са святаром

**Такое пытанне задаў на пачатку снежня ў Фэйсбуку ксёндз Вячаслаў Барок, пробашч касцёла Святога Антонія ў Віцебску.**

За некалькі дзён на гэту тэму ўжо выказалася некалькі соцень чалавек. Прычым бралі ўдзел у абмеркаванні не толькі каталікі, але і праваслаўныя, і атэісты. Такая колькасць адказаў сведчыць пра тое, што людзям неабыякавы лёс Касцёла ў нашай краіне.

У адказах называліся розныя праблемы: гэта і слабая пaклiканыя для таго, каб прапаведаваць Божае Слова. Але мы ніколі не будзем добрымі прапаведнікамі Божага Слова, калі не навучымся чуць тых, каму мы прапаведуем.

**– На Ваш погляд, якая зараз самая вялікая праблема Касцёла ў Беларусі?**

– Такіх праблем шмат. Але, як на мой погляд, вельмі моцна адчуваецца недахоп агульнай візіі Касцёла, як

адсотак людзей, абыякава настаўленых да рэлігіі ў самой Беларусі і ў Еўропе. Вядома, некаторыя краіны

Выписываю “Каталіцкі Веснік” несколько лет, покупаю журналы “Ave Maria”, “Дыялог”. Так вот, у меня появилась проблема: накопилось много газет, журналов. Вопрос: куда мне их девать, кому мне их отдать?? Предвижу ответ – детям, родственникам, другим людям, в костёл отдать. Теоретически – логично! Но проблема в том, что никому из всех перечисленных они не нужны.

Утилизировать, спалить в печке? Но ведь там великое духовное зерно! Возможно, есть кто-то, кому и несколько слов (даже одно) может помочь разрешить жизненную ситуацию. А у меня они лежат мёртвым грузом! ***Как решить проблему?*** Предвижу удивление! В наше время всё доступно, да и зачем старые газеты и журналы? Костёлы открыты, духовной литературы море и т д. Но неужели кто-то вот так наивно уверен в том, что так есть и всё так будет всегда? Лично я в этом не уверена!

Почему я заострила внимание на статье “У чым галоўная праблема Касцёла ў Беларусі?” Потому что надо сначала решать маленькие проблемы. Когда над глобальной проблемой размышляет человек, находящийся на высокой духовной позиции, который окружён людьми верующими, наученными, возможно, даже им, то он не всегда может увидеть чудовищно надвигающуюся волну атеизации общества. Почему-то католическое духовенство уверено в том, что времена воинствующего атеизма уже прошли. Это я не раз слышала из проповеди ксендза. Служба в костёле, куда мы с мужем ездим за пять км от нас, начинается около семи утра, заканчивается в $7^{30}$ – $8^{00}$. Людей мало, более того, их количество уменьшается даже не с каждым годом, а с каждым месяцем. О детях, молодёжи даже и говорить нечего. В самом костёле (построен в 1995 году) уже нужен ремонт, но…

Общество, которое меня окружает, в основном считает себя православным, но ключевое словосочетание – “считает себя”. Многие тоже “считают себя” католиками. И это “считание себя” никак не влияет на образ жизни людей. По сути люди не ругаются чудовищным матом, они разговаривают на этом языке, как на местном диалекте. Некоторые даже, случается иногда, посетив исповедь в церкви, могут на этом же “диалекте” рассказать о своей истинной праведности, особенно в паре с “горячительным напитком”, да и без него тоже. В целом каждый живёт так, как считает удобным для себя, попирая интересы тех, кто ему мешает.

Мои дети взрослые, имеют свои семьи, своих детей. В принципе они видели контраст их мамы и общества, с которым они контактировали. Кем они видят даже теперь свою маму? Как думаете? Религиозной фанатичкой! Вот так! Обратите внимание: если кто-то просто ***стремиться*** жить так, как учит костёл, для общества, в котором я живу, это религиозный фанат!

В принципе религиозные ритуалы среди большей части населения у нас в Беларуси уходят в прошлое. Времена атеизма оставили свой чудовищный след. Зачем утруждать себя каким-то там сдерживанием! Время постов ничем не отличается от времени не постов. Колоссальную роль играют средства массовой информации, в которых ведь по сути не только отсутствует религиозное влияние, но даже, наоборот, насаждается влияние мирских соблазнов, попирается нравственность, почётное место занимает насилие. Ведь молитву читать, особенно розарий, ой-ёй-ёй, как тяжело! А телевизор, интернет? Пожалуйста! Сиди и развлекайся! Более того: учись бить врага.

Думаю, что есть люди, желающие выйти из этого круговорота. Но переступить порог храма (любого) для них проблема, **огромная проблема**. А купить ту газету, журнал? О! Деньги отдать!? А что скажет тот, кто рядом? А? Засмеют, заплюют! Пальцами затыкают! И… предложат выпить, т. е. ***купить*** спиртного, так сказать, “по традиции” отметить праздник, в том числе и религиозный (любой конфессии, это не принципиально)… Это истинное отношение не только общества, но и близких, родных людей к тем, кто хочет хоть как то утолить духовную жажду. В результате человек подчиняется ближайшему окружению, чтобы быть просто “своим парнем”, чтобы его не высмеяло, не отвергло общество, да может быть и просто ради того, чтобы не потерять работу.

Поэтому я считаю, что както вот такую накопившуюся литературу (пусть старую) надо где-то оставлять так, что б человек мог её просто взять. Понимаю, будут те, кому захочется, может быть, осквернить что-то в ней! Но ведь и кому-то она может оказаться нужной.

Давайте начинать решать малые проблемы, пока нас всех ещё не захлестнула “по традиции” глобальная атеистическая волна цунами!

***Ирина***

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку “Газетная закрыстыя”.**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету “Каталіцкі Веснік”. Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета***
***“Каталіцкі Веснік”***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар’янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце “Газетная закрыстыя”. Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце “Каталіцкі Веснік” Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*“Каталіцкага Весніка”*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# У Пінску арганізуюць фестываль арганнай музыкі імя кардынала Казіміра Свёнтка

**Адзін з самых старажытных і другі па велічыні беларускі арган – ён месціцца ў пінскай катэдры – загучыць па-новаму.**



Тут арганізоўваюць фестываль арганнай музыкі імя кардынала Казіміра Свёнтка. Плануецца, што на працягу лета арганісты з розных краін будуць даваць у храме канцэрты.

Старт мерапрыемству маюць намер даць напрыканцы мая 2019 г. Пра дакладныя тэрміны і расклад канцэртаў стане вядома неўзабаве. Ініцыявала фестываль катэдральная парафія Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі пры падтрымцы сектара культуры гарвыканкама, – паведаміла Беларускай службе Vatican News сябра Рады па справах літургіі і музыкі Пінскай дыяцэзіі арганістка Вікторыя Куцько.

Паводле яе, сярод галоўных ідэй і мэтаў фестывалю – ушанаванне імя адзінага беларускага кардынала, 80-годдзе святарства якога будзе адзначацца сёлета. "Па-другое, паказаць наш катэдральны арган шырокаму колу слухачоў. Бо гэта адзін з самых старажытных і, на жаль, мала задзейнічаных у канцэртным выкананні інструментаў. І па-трэцяе, немалаважна далучаць вернікаў, жыхароў і гасцей горада да слухання твораў духоўнай музыкі, навучыць іх слухаць, разумець і любіць такую незвычайную для сучаснага свету музыку", – пракаментавала Вікторыя Куцько.



Кардынал Казімір Свёнтэк

Важна і тое, што Пінск быў абраны культурнай сталіцай Беларусі 2019 года, таму арганны фестываль будзе адным з галоўных мерапрыемстваў, якія пройдуць з нагоды надання гораду такога статусу. У перспектыве штогадовы фестываль арганнай музыкі мог бы стаць брэндам сталіцы Палесся і прываблівць у горад турыстаў.

Арган пінскай катэдры быў пабудаваны майстрам Адальбертам Градніцкім у Вільні ў 1837 г. Інструмент мае 1049 галасоў, 36 дзейных рэгістраў, два мануалы, 1498 труб – драўляных і металічных, вышынёй да чатырох метраў. Цікава, што грошы на рэканструкцыю пінскага аргана нядаўна выдаткоўваў беларускі мецэнат Юры Зісер, заснавальнік партала Tut.by.

Жыццё кардынала Казіміра Свёнтка цесна звязанае з пінскім касцёлам Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі. У 1954 г. ён, будучы святаром, вярнуўся са сталінскіх лагераў і з таго часу служыў у парафіі больш за 50 гадоў. У 2001 г. па ініцыятыве іерарха – на той час ужо кардынала – была адноўлена Пінская семінарыя, якая размясцілася ў карпусах былога кляштара пры катэдры. Пасля смерці ў 2011 г. кардынал Свёнтэк быў пахаваны ў крыпце святыні.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*

# У мядзельскім касцёле знайшлі рэліквіі святой ІІ стагоддзя



**У сцяне касцёла Маці Божай Шкаплернай, што ў Мядзеле, знайшлі рэліквіі, замураваныя ў 1940 годзе, перад прыходам бальшавікоў. Знаходкі вельмі каштоўныя для Беларусі, сказаў радыё "Свабода" ксёндз Юры Кулай.**

Пра схованку даведаліся з нататкі аднаго з братоў касцёла, знойдзенай у архіве ордэна кармелітаў у Кракаве разам з фота старога Мядзела. Апісанне было дастаткова, каб зразумець, дзе схаваныя рэліквіі: пры нагодзе, калі замянялі электраправодку, іх знайшлі. Сярод знаходак – парафіяльныя кнігі хростаў, шлюбаў, памерлых і ахвярадаўцаў, некаторыя яшчэ з ХІХ стагоддзя, а таксама мошчы святой Тэрэзы, святой Цэцыліі і Папы Грыгорыя Вялікага. Самыя старыя – святой Цэцыліі, якая жыла ў Рыме ў ІІ стагоддзі.

"Я думаю, гэта сапраўды надзвычайная знаходка, – кажа "Свабодзе" айцец Юры. – Рэліквіі ІІ стагоддзя – гэта рэдкасць і для Беларусі, і ўвогуле. Раней у Мядзеле былі рэліквіі святога Юстына, таксама ІІ стагоддзя, але перад Першай сусветнай вайной унучка фундатара перанесла іх у Мосарскі касцёл. Мошчы святой Цэцыліі, якія знайшлі ў нас, таксама ІІ стагоддзя, а больш старажытных рэліквій я не сустракаў у Беларусі".

Рэліквіі застануцца ў касцёле і будуць выстаўленыя для вернікаў. Але калі менавіта гэта будзе, пакуль невядома: у касцёле яшчэ працуюць над упарадкаваннем знаходак, набываюць адмысловыя рэлікварыі.

"З тэрыторыі Беларусі вывозілі за мяжу шмат рэліквіяў, каб ўратаваць іх ад бальшавікоў", – кажа айцец Юры, але шмат было проста знішчана. Аўтар нататкі пра схованку пісаў, што ведае: ідуць савецкія ўлады, "якія не глядзяць ні на што".

"І касцёл сапраўды потым быў зачынены, выкарыстоўваўся як склад хімічных угнаенняў, сельскагаспадарчай тэхнікі, стаяў без вокнаў і дзвярэй, – расказвае айцец Юры. – Усё было раскрадзена-раскідана, святары выехалі ў Польшчу. Адзін святар, які застаўся, схаваў гэтыя рэчы, пасля таксама выехаў у Польшчу".

# Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Ганна Карніловіч** *(Глыбокае)*, **Ганна Гінько** *(Глыбокае)*, **Тэрэса Хвайніцкая** *(Руткевічы)*, **Казімір Буткевіч** *(Вялікае Сяло)*, **Эма Козел** *(Докшыцы)*, **Тэрэза Дулінская** *(Вазоўнікі)*, **Валянціна Падгайская** *(Паставы)*, **Яніна Курыловіч** *(Курылавічы)*, **Драневіч Г.І.** *(Малая Сырмеж)*, **Ціннікава Алена** *(Мінск)*, **Эвеліна Клімантовіч** *(Бярозаўка)*, **Вільгельм Драгун** *(Варапаева)*, **Юзаф Павучонак** *(Сынадворцы)*, **Яніна Мядзелец** *(Германавічы)*, **Антаніна Дарашкевіч** *(Муляры)*, **Іван Сіманенак** *(Паставы)*, **Тацццяна Сапель** *(Браслаў)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Лапушынская Р.В.** *(Коўзаны)*, **Алена Карневіч** *(Коўзаны)*, **Іван Кашчыц** *(Ашмяны)*, **Яніна Лубінская** *(Шэметава)*, **Апалёнія Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Рэгіна Лазучэнка** *(Браслаў)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Юлія Шпаковіч** *(Зямцы)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Зінаіда Жук** *(Падсвілле)*, **Соф'я Чырвінская** *(Язні)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Тамашэвіч Б.С.** *(Лёзна)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Лоўкіс Л.В.** *(Навасёлкі-2)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Святлана Буткевіч** *(Крапіўнікі)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Рэгіна Ракіцкая** *(Браслаў)*, **Феакцістава Л.М.** *(Камарова)*, **Алена Сакалоўская** *(Павяцце)*, **Святлана Ахрэмчык** *(Лугі)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Працук С.В.** *(Свідна)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **Алена Ціннікава** *(Мінск)*.

Шчыра дзякуем ахвярадаўцам і чытачам за цёплыя словы віншаванняў, якія былі дасланыя ў адрас рэдакцыі і галоўнага рэдактара, з нагоды святаў Божага Нараджэння і Новага года.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

***Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"***

# СВЯТАРЫ – МУЖЧЫНЫ АБО ДАЛОЎ ВАЗОНЫ!

**Я не люблю вазоны. Рэдка якая расліна ў вазоне мне сапраўды падабаецца, дакладна не хачу траціць час на догляд. Больш за тое, не ўяўляю, куды іх ставіць. Таму заўжды застаюся ў глыбокім непаразуменні: навошта святарам штораз на любое свята дарыць вазон? У чым логіка?!**

**Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*





Нядаўна мы падарылі архідэю 90-гадовай бабулі, а праз некалькі дзён такую ж самую атрымаў пробашч ад сваіх парафіянаў... Эммм... Які, прабачце, мужчына будзе з нецярпеннем чакаць архідэю на дзень нараджэння?!

Так і ўяўляю, як святар бярэ чарговы вазон і думае, куды яго зноў паставіць. Хто будзе паліваць пры ад'ездзе? Як перавозіць пры пераездзе? Спадарства, будзе файна, калі зразумеем: святар – чалавек. Чалавек мужчынскага полу. Мужчыны не мараць пра вазоны! У іх ёсць шмат сваіх патрэбаў.

Такім чынам, я прапаную некалькі варыянтаў карыснага, смачнага і цікавага, чым можна парадаваць мужчынусвятара:

✏ Якасныя кава і гарбата (для сябе, гасцей і моладзі, якая часта наведвае святароў);
✏ Сухафрукты і арэхі (бывае, не хапае часу і магчымасці нармальна паесці);
✏ Ласункі (файна, калі самыя любімыя цукеркі, шакаладкі, зефіркі святара будуць ці яму, ці для гасцей);
✏ Шкарпэткі (якасныя чорныя кашулі, цішоткі без каўняроў, рамяні, запанкі);
✏ Адзенне кліматкантролю (у сутане летам бывае горача, а зімой халодна);
✏ Чорныя доўгія курткі з капюшонам (у дождж на могілках самае тое);
✏ Стула фіялетавая;
✏ Чорныя вялікія парасоны, распыляльнік для адзення ад дажджу (сутаны доўга сохнуць);
✏ Электрагрэлкі, рукавіцы з прарэзамі для пальцаў (памятаеце, як халодна бывае ў касцёле? А ў канфесіянале пасядзець? Кубак з электрападагрэвам);
✏ Пераносныя калонкі (сустрэчы моладзі, пілігрымкі, лекцыі – вельмі спатрэбіцца), прынтар, праэктар (значна сэканоміць час і ажывіць Літургію, катэхезы, проста сустрэчы);
✏ Лямпа ў канфесіянал са сваім электрасілкаваннем (а то чытае святар з тэлефона, а людзі думаюць – забаўляецца);
✏ Ручны крыж (для казанняў, заступніцкіх малітваў), ружанец (часта рвецца), кленчнік у пакой святара;
✏ "Дарожны набор святара" (чамаданчык з усім неабходным для Імшы);
✏ Падарожны Імшал з чытаннямі (маленькі такі, зручны, лёгкі), Біблійныя каментары (для падрыхтоўкі казанняў);
✏ Дзелавая чорная сумка для альбы і дакументаў, чамадан (святар часта ездзіць, асаблівa малады), складная сумка для сутаны (выглядае як сумка для касцюмаў, каб нічога не мялася);
✏ Артапедычная падушка, сродкі гігіены, мужчынская касметыка і шмат усяго рознага.

А калі ведаеш святара асабіста, заўжды можна падрыхтаваць штосьці прыемнае менавіта яму: цэлы кошык яго любімых цукерак, набор гарбаты, дзе на кожным пакуначку – асобнае пажаданне, 12 мяшэчкаў з сюрпрызамі на кожны месяц да наступнай гадавіны, вышыванка, пас, білеты ў тэатар ці кіно...

Выжведаецезацікаўленасці сваіх ксяндзоў! А калі не, можа, час прыглядзецца?

Дзякуй за ўвагу!

# Дарыць хвілінкі радасці

**27 снежня 2018 ў дзень святога Яна, апостала і евангеліста, у капліцы віцебскага дома-інтэрната для састарэлых і інвалідаў з нагоды свята Божага Нараджэння адбылася ўрачыстая святая Імша.**

**кс. Аляксей Ляшко**

Пасля Эўхарыстыі прысутныя дзяліліся аплаткам з тымі, хто тут жыве, і вернікамі-валанцёрамі, якія клапоцяцца, каб кожны ахвотны, каторы знаходзіцца ў дома-інтэрнаце, мог узяць удзел у святой Імшы.

Групай валанцёраў кіруе сястра Антонія з супольнасці сясцёр Служабнічак Багародзіцы Марыі, якая нясе сваю паслугу ў парафіі Святога Антонія Падуанскага ў Віцебску. Трэба адзначыць, што валанцёрамі ў дома-інтэрнаце з'яўляюцца не толькі некаторыя вернікі парафіі Св. Антонія, але таксама і вернікі з парафій Езуса Міласэрнага і Святога Духа, што знаходзяцца ў Віцебску. Валанцёры разам з с. Антоніяй павіншавалі жыхароў дома з Калядамі, а таксама ўручылі салодкія падарункі.

Праз некалькі дзён, а дакладней, 3 студзеня 2019 года, ужо малодшая частка вернікаў парафіі Св. Антонія Падуанскага пад кіраўніцтвам сястры Мажэны паказала батлейку для жыхароў дома-інтэрната, якая дарэчы, заняла трэцяе месца на дыяцэзіяльным конкурсе батлеек.

Дзеткі з парафіі Езуса Міласэрнага ў Віцебску разам з сястрой Ёнашай з супольнасці сясцёр Служабнічак Найсвяцейшай Дзевы Марыі Беззаганна Зачатай парадавалі насельнікаў дома-інтэрната спевамі калядак, а таксама падарылі цукеркі. Дзеткі дарылі свае ўсмешкі і жывыя адносіны, якіх часам так не хапае жыхарам гэтай установы.



# У Віцебску прайшоў дыяцэзіяльны конкурс батлеек

**Падзея адбылася 4 студзеня ў Цэнтры дзіцячай творчасці горада Віцебска.**

**Зміцер Лупач**, *тэкст і фота*

Удзел у конкурсе прынялі дзіцячыя калектывы з 11 парафій дыяцэзіі. Акрамя таго, была прадстаўлена адной удзельніцай Дубровенская парафія.

Вядоўцамі на мерапрыемстве былі кс. Віктар Місевіч і Вікторыя Колзун. Яны і прадставілі гледачам і ўдзельнікам склад журы. У яго ўвайшлі а. Міхаіл Ермашкевіч OP – пробашч парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Сянне, Крысціна Бондарава – кіраўнік клуба культурна-гістарычнай рэканструкцыі "Паўночная вежа", Алесь Замкоўскі – кіраўнік літаратурна-драматычнай часткі Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску, а. Клеменс Верт SJ – мадэратар Віцебскай курыі.

Пасля абеду адбылося ўручэнне дыпломаў, прызоў і падарункаў.

Першае месца ў конкурсе занялі дзеці з Браслаўскай парафіі.

Другое і трэцяе месца журы прысудзіла прадстаўнікам Докшыцкай парафіі і парафіі Святога Антонія з Віцебска.

Трэба адзначыць, што акрамя трох пераможцаў, якія атрымалі каштоўныя прызы, усе ўдзельнікі былі ўзнагароджаныя дыпломамі. А яшчэ ўсе дзеці атрымалі салодкія падарункі і календары, якія былі прадстаўлены Дабрачынным каталіцкім таварыствам Caritas Віцебскай дыяцэзіі.

Дзеці раз'ехаліся па сваіх парафіях, каб праз год зноў сустрэцца тут, на конкурсе батлеек у Віцебску.



Выступаюць прадстаўнікі Браслаўскай парафіі.



На сцэне самыя малодшыя ўдзельнікі конкурсу – прадстаўнікі парафіі Святога Уладзіслава з Віцебска.

# Капуцын Валерый Кунгер пра сваё служэнне ў Афрыцы: “Раз Бог мяне туды пасылае, то і дасць мне сваё блаславенне”




**Перад самым Новым годам брат Валерый Кунгер OFMCap, які служыў у Докшыцах, атрымаў місійны крыж. Ён будзе несці місійнае служэнне ў Цэнтральнай Афрыцы, а менавіта ў Габоне. Для Кустодыі братоў-капуцынаў у Беларусі гэта падзея – першая ў гісторыі.**

“Каталіцкі Веснік” пагутарыў з братам Валерыем перад яго ад’ездам у Афрыку.

**– Як Вы адчулі сваё пакліканне да місіянерства?**

– Я гэта ўжо адчуваў гадоў дзесяць. І я быў гатовы туды ехаць, калі Бог пакліча. Наша Кустодыя капуцынаў і правінцыя ў Варшаве прапанавала мне паехаць у Афрыку, каб дапамагчы нашым братам у служэнні. Я паразважаў у сваім сэрцы, падумаў, спытаў, у якім месцы гэтага кантынента Бог хоча мяне бачыць. Вось так і выйшла, што я еду працаваць у Афрыку.

**– Чаму менавіта Габон? Вы самі выбіралі краіну?**

– Не, так вырашыла наша кіраўніцтва. Я еду менавіта туды, бо там ужо працуюць нашы браты-капуцыны з Варшаўскай правінцыі. Я еду дапамагчы ім у іх працы.

**– Не страшна ехаць у Афрыку?**

– Крыху ёсць нейкае перажыванне, вядома. Бо гэта для мяне нешта новае, нешта невядомае. Але я мяркую, паколькі мяне Бог туды пасылае, то і дасць мне сваё бласлаўленне.

**– Вы ведаеце ўжо дакладна, дзе будзеце несці службу Богу?**

– Пакуль што дакладна не ведаю. Мне казалі, што хутчэй за ўсё ў Менэлі. Гэта невялікі населены пункт, такая афрыканская вёска.

**– А ведаеце ўжо канкрэтна, з кім з братоў будзеце несці сваё служэнне?**

– Там ужо працуе дзесяць нашых братоў-капуцынаў. Два з іх – гэта браты з майго курсу. Хто з іх дзе канкрэтна на працуе, я пакуль не ведаю, пабачымся там на месцы. Я сам гатовы працаваць у любой мясцовасці, куды мяне накіруюць і дзе будзе патрэбная мая праца.

**– Наколькі вядома, большасць насельніцтва Габона – католікі. На Вашу думку, ці ёсць яшчэ там праца для місіянераў?**

– Вядома, працы заўсёды будзе хапаць для таго, хто хоча працаваць. Хто хоча служыць Пану Богу – заўсёды знойдзе сабе працу.

**– Магчыма будзе з Вамі паразмаўляць праз паўгода, каб Вы падзяліліся сваімі ўражаннямі і вынікамі працы?**

– Вядома, што так. Я падпісаны на сайт “Каталіцкага Весніка” і заўсёды яго чытаю. Таму ахвотна падзялюся сваім досведам і тымі ўражаннямі, што напаткаюць мяне на афрыканскім кантыненце.

**– Поспехаў Вам! З Богам!**

– З Богам!

*Гутарыў **Зміцер Лупач***

***

Габон – дзяржава на заходнім узбярэжжы Атлантычнага акіяна ў Цэнтральнай Афрыцы. Тэрыторыя – 267,7 тыс. кв.км, насельніцтва – каля 2 млн чалавек (для параўнання: плошча Беларусі – 207,6 тыс. кв.км, насельніцтва – каля 9,5 млн чалавек). 80% насельніцтва Габона – католікі.




# Ахвяруй на “Каталіцкі Веснік”

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце “Каталіцкі Веснік” фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:
*363*375295105172*2#
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.

Увага!

Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.

Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.

Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты “Каталіцкі Веснік”! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя газеты “Каталіцкі Веснік”***



# Чые гэта словы?

**Новы тэст “Каталіцкага Весніка” накіраваны на праверку ведаў тэксту Святога Пісання. Адкажыце правільна, чые гэта словы.**

1 Хіба я вартаўнік брату майму? *(Быц. 4, 9)*




А. Ісаак
Б. Каін
В. Авель

2 Смех учыніў мне Бог; хто ні пачуе пра мяне, засмяецца *(Быц. 21, 6)*



А. Ева
Б. Сарра
В. Рахіль

3 Кожнага народжанага сына кідайце ў раку, а кожную дачку пакідайце жывою *(Выхад 1, 22)*



А. Ірад
Б. Фараон
В. Понцій Пілат

4 Пачатак мудрасці — страх Гасподні *(Выслоўі 1, 7)*



А. Прарок Ісая
Б. Езус Хрыстус
В. Саламон

5 Ойча! Я зграшыў супраць неба і перад табою… *(Лк. 15, 18)*



А. Блудны сын
Б. Багач
В. Злы вінаградар

6 Я — Лаза, а вы галіны *(Ян 15, 5)*



А. Ян Хрысціцель
Б. Езус Хрыстус
В. Апостал Пётр

7 Зграшыў я, прадаўшы кроў нявінную *(Мц. 27, 4)*



А. Юда Іскарыёт
Б. Понцій Пілат
В. Ірад

8 Калі не ўбачу на руках у Яго ранаў ад цвікоў, і не ўкладу пальца майго ў раны ад цвікоў, і не ўкладу рукі маёй у рэбры Ягоныя, не паверу *(Ян 20, 25)*



А. Юзаф з Арыматэі
Б. Першасвятар Каяфа
В. Апостал Тамаш

9 Знеслі Госпада з магілы, і не ведаем, дзе паклалі Яго *(Ян 20, 2)*



А. Марыя
Б. Марта
В. Юзаф з Арыматэі

10 Жонкі вашыя ў цэрквах няхай маўчаць; бо не дазволена ім гаварыць, а быць у паслушэнстве, як і закон кажа *(1 Кар.14, 34)*



А. Езус Хрыстус
Б. Майсей
В. Апостал Павел

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на старонцы 16**

# Каляндар на люты



**2 лютага – свята Ахвяравання Пана.**

У гэты дзень падчас Літургіі ўзгадваецца прынясенне Дзіцятка Езуса ў святыню для выканання абраду ахвяравання. Іншая назва – свята Маці Божай Грамнічнай. Грамнічная свечка таксама сімвалізуе Марыю – пакорную слугу Пана Бога, у душы якой гарэла святло веры, надзеі і любові. Свечкі, што асвячаюць у гэты дзень, называюць "грамнічнымі", бо іх запальваюць у час навальніцаў, каб апека Маці Божай выратавала ад небяспекі. Запаленую грамнічную свечку таксама даюць у рукі чалавеку пры адыходзе з гэтага свету, каб Найсвяцейшая Панна Марыя прывяла яго душу ў неба.

**3 лютага – успамін святога Блажэя, біскупа і мучаніка.**

Святы Блажэй з'яўляецца апекуном пры хваробах горла. Адна з легендаў гаворыць, што аднойчы маленькі хлопчык падавіўся косткаю, што засела ў горле і стала прычынаю моцнага ацёку. Хлопчыку пагражала ўдушэнне. Тады біскуп са спачуваннем дакрануўся да шыі хлопчыка і зрабіў над ім знак крыжа. І раптам хлопчык пачаў роўна дыхаць, ацёк зменшыўся, а потым зусім знік. Вестка пра незвычайнага лекара хутка разляцелася па ваколіцы, што было вельмі нязручна для рымскіх уладаў. Адразу просьбамі, а потым катаваннем яны імкнуліся прымусіць біскупа адмовіцца ад Хрыста, але святы Блажэй не адмовіўся. Ён быў забіты мечам прыкладна ў 316 годзе. У дзень яго літургічнага ўспаміну асвячаюцца свечкі, якія называюцца "блажэйкамі". У час благаслаўлення святар, трымаючы ў руках дзве скрыжаваныя свечкі, моліцца: "Няхай Бог праз заступніцтва святога мучаніка Блажэя вызваліць цябе ад усялякіх хваробаў горла і ад усялякага зла!"



**5 лютага – успамін святой Агаты, панны і мучаніцы.**

Яна была дзяўчынай, якая, прагнучы захаваць чыстасць і вернасць Хрысту, вытрымала зневажанне публічным домам, турмой і катаваннямі, у тым ліку разарванне і адразанне грудзей. Яе падтрымлівалі малітвы і бачанні Святога Пятра. Святая Агата прыняла мучаніцкую смерць у Катаніі, на Сіцыліі, каля 250 г. Праз год пасля яе смерці адбылося вывяржэнне вулкана Этна. Патокі лавы пагражалі знішчыць увесь горад, але яны спыніліся, калі жыхары Сіцыліі, просячы ў малітвах заступніцтва Агаты, паклалі на іх шляху вэлюм, што належаў святой.

Дзякуючы гэтаму цуду Агату пачалі лічыць апякункай, якая ахоўвае ад пажараў. У дзень успаміну св. Агаты благаслаўляюць хлеб і вада. У малітве асвячэння прыпамінаецца, што св. Агата з'яўляецца асаблівай заступніцай і апякункай ў небяспецы пажару.

**11 лютага – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з Люрда.**

У гэты дзень Каталіцкі Касцёл успамінае Маці Божую Люрдскую і адначасова адзначае чарговы Сусветны дзень хворых, устаноўлены св. Янам Паўлам ІІ у 1992 г. у 75-ю гадавіну фацімскага аб'яўлення і ў 11-ю гадавіну замаху на жыццё самога Святога Айца.

Менавіта ў гэты дзень у святынях можна атрымаць сакрамант намашчэння хворых.






**14 лютага – успамін св. Кірылы, манаха, і Мяфодзія, біскупа, апекуноў Еўропы.**

Браты Кірыла і Мяфодзій – легендарныя стваральнікі кірыліцы – нарадзіліся ў Грэцыі ў сям'і вайскоўца. Яны жылі ў грэцкім горадзе Салуні. Кірыла з малых гадоў праявіў вялікія здольнасці: дасканала ведаў усе навукі свайго часу, вывучыў некалькі моў. Не адставаў ад яго і Мяфодзій. Браты выхоўваліся ў набожнай сям'і, і гэта паўплывала на тое, што яны ў рэшце рэшт сталі манахамі.

Славянскую азбуку Кірыла і Мяфодзій стварылі на аснове грэка-візантыйскага ўстаўнага пісьма. На думку даследчыкаў, адбылося гэта ў другой палове IX стагоддзя. Новы алфавіт атрымаў назву "кірыліца" – ад імя аднаго з братоў.

Папа Адрыян ІІ упершыню зацвердзіў літургію на славянскай мове. 14 лютага 869 г. у Рыме памёр Кірыла. Ён быў пахаваны ў базыліцы св. Клімента, дзе яго цела спачывае і цяпер, а старэйшага брата, Мяфодзія, Папа пасвяціў на арцыбіскупа Маравіі і Панoніі (сучасная Венгрыя), дзе ён нястомна працягваў абвяшчаць Евангелле. Яго дзейнасці, што дасягала нават польскіх земляў, моцна перашкаджалі нямецкія біскупы, якія былі супраць славянскай літургіі і нават на працягу двух з паловаю гадоў трымалі святога пад арыштам. Яго вызваліў Папа Ян VIII, які зацвердзіў Мяфодзія на ўсіх яго пасадах і даў дазвол карыстацца славянскаю мовай ў літургіі.

Мяфодзій памёр 6 красавіка 885 г., хутчэй за ўсё, у Веляградзе, у Маравіі. Пасля яго смерці літургія на славянскай мове зноў была забароненая. За вялікія заслугі ў абвяшчэнні хрысціянскай веры сярод славянскага насельніцтва святых Кірылу і Мяфодзія называюць "Апосталамі славянаў". Святы Айцец Ян Павел ІІ абвясціў святых Кірылу і Мяфодзія апекунамі Еўропы, прыпамінаючы, што кантынент, каб развівацца гарманічна, патрабуе "дыхаць двума лёгкімі – усходнім і заходнім".

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Колзун***

## На люты прыпадаюць дні нараджэння і імяніны ў наступных святароў і біскупаў:

**10 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*;

**17 лютага** – імяніны адзначае **кс. Аляксей Асон** *(Новы Пагост)*;

**18 лютага** – дзень нараджэння адзначае **кс. Вадзім Прасяной SCJ** *(Паставы)*;

**22 лютага** – дзень нараджэння адзначае **ксёндз прэлат Крыштаф Міекіна** *(Мёры)*;

**26 лютага** – імяніны адзначае біскуп **Алег Буткевіч**;

**28 лютага** – імяніны адзначае **кс. Раман Мурзіч** *(Параф'янава)*.

*Падрыхтаваў* ***Зміцер Лупач***

## Як у Глыбокім 95 год таму сустракалі віленскага арцыбіскупа

**Артыкул пра гэта змешчаны ў №256 газеты "Кур'ер Віленскі" за 1926 год.**

Нататка мае назву "Візіт арцыбіскупа", яе аўтар – жыхар Глыбокага Шукевіч. Прапануем яе вашай увазе ў перакладзе на беларускую мову.

### Візіт арцыбіскупа

Дзень 28 кастрычніка надоўга захаваўся ў памяці жыхароў Глыбокага. У гэты дзень наш горад наведаў ксёндз арцыбіскуп Ялбжыкоўскі, які прыехаў з візітацыяй у Глыбоцкі дэканат.

Пры атрыманні весткі аб прыбыцці такога высокага госця прадстаўнікі Кансерватыўнай Арганізацыі па дзяржаўнай працы правялі нараду, каб вызначыць праграму прыняцця іерарха. Жыхары ўпрыгожылі свае дамы нацыянальнымі сцягамі і сталі чакаць пастыра, які павінен быў прыехаць конным экіпажам са станцыі Крулеўшчына.

А 8-й гадзіне іерарх быў сустрэты ўрачыстым шэсцем уланаў 4-га палка, што дыслакаваўся ў Беразвеччы, на чале з ганаровай вартай. У пачатку горада высокі госць быў сустрэты духавенствам, мясцовай уладай і прадстаўнікамі габрэйскай супольнасці на чале з рабінам Кацам.

Пасля таго, як арцыпастыр прыбыў у касцёл і адслужыў там Імшу, ён сустрэўся з прадстаўнікамі жыхароў Глыбокага, дзяржаўнай улады і габрэйскай дэлегацыяй, з якой размаўляў на іх мове.

Потым арцыбіскуп наведаў касцёл у Беразвеччы, які быў пабудаваны трыста гадоў таму дзякуючы фундацыі роду Корсакаў.

А дзявятай гадзіне вечара арцыбіскуп развітаўся са шматлікамі жыхарамі мястэчка, якія прыйшлі яго праводзіць, і ярка асветленымі вуліцамі Глыбокага паехаў на чыгуначны вакзал, каб назаўтра наведаць з візітацыяй Свянцянскі дэканат.

***Шукевіч***
***"Кур'ер Віленскі",***
*№256 за 1926 год*
*Пераклад Зміцера Лупача*

**Заўвага.** Кансерватыўная Арганізацыя па дзяржаўнай працы (Organizacja Zachowawcza Pracy Państwowej) – польская палітычная партыя, якая дзейнічала з ліпеня па снежань 1926 года.

# Ці ёсць якія-небудзь правілы, каму і як падаваць міласціну?



***"Хвала Хрысту! У мяне такое пытанне: ці павінна быць разважанне пра міласціну? Ці даваць міласціну, калі просіць відавочны п'яніца? Ці трэба падаваць міласціну "прафесійным жабракам"? І наогул, ці ёсць якія-небудзь правілы, каму і як падаваць? Адкажыце, калі ласка, бо заўсёды адчуваю згрызоты сумлення, калі не падаю міласціну, да канца не ведаючы сітуацыі чалавека. Дзякуй.***
*З павагай, Анастасія"*

– Паважаная Анастасія!

Дзякуй Вам за пытанне, якое датычыць любові да бліжняга, а канкрэтна, дапамогі людзям у патрэбе. Тэма міласціны ў жыцці хрысціяніна заўсёды актуальная, таму разважаць пра яе пажадана як вернікам, так і касцельным супольнасцям розных узроўняў.

### Міласціна – выраз любові да Бога і чалавека

Анастасія патаецца, ці павінны мы разважаць пра міласціну? Яна сама, як бачым з кантэксту ўсяго пытання, сур'ёзна разважае на гэтую тэму. Мяркую, што чытачы "Каталіцкага Весніка" даволі часта задумваюцца над тым, якім чынам ды ў якім памеры дапамагаць бедным, тым, хто ў патрэбе. Евангельскае апавяданне пра багача і Лазара (пар. Лк 16,19-31) прыпамінае заклік Езуса Хрыста дапамагаць бедным. Прычым варта памятаць, што багач пакутуе пасля смерці не за тое, што быў багатым пры жыцці, але праз закамянелае сэрца, якое перашкодзіла яму ўбачыць рэальныя патрэбы беднага Лазара.

Тэрмін "міласціна" на грэцкай мове гучыць ἐλεημοσύνη (eleēmosynē) і азначае "міласэрнасць". Мы сустракаемся з коранем гэтага слова ў заклiку *Кірые, элейсон!* што азначае *Пане, змілуйся!* Такім чынам, мы заўважаем, што міласціна ёсць практычным ажыццяўленнем хрысціянскай міласэрнасці, а таксама выразам веры і любові да Бога ды бліжняга.

Папа Францішак сцвярджае, што міласціна павінна ўключаць у сябе ўсё багацце міласэрнасці, якая прысутная на тысячах дарог і выражаецца тысячамі спосабаў (пар. Францішак, Агульная аўдыенцыя, 09.04.2016). Справа міласэрнасці – гэта заданне ўсёй касцельнай супольнасці, таму святы Ян Павел II казаў, што сацыяльнае вучэнне Касцёла становіцца больш верагодным дзякуючы ўчынкам міласэрнасці (пар. Ян Павел II, Энцыкліка *Centesimus annus*, 57). Менавіта любоў да бедных належыць да традыцыі Касцёла, які ўсведамляе, што дапамога чалавеку ў патрэбе – гэта дабро, учыненае Самому Хрысту.

Апісанне Апошняга суда паказвае перспектывы практыкавання міласэрнасці: галодныя, сасмаглыя, падарожныя, хворыя ці зняволеныя – гэта людзі, праз якіх мы можам тут, на зямлі, учыніць дабро Езусу Хрысту (пар. Мц 25, 31 – 46). Цікавую думку на тэму міласэрнасці выказала святая маці Тэрэза з Калькуты, якая сцвярджае, што насамрэч не мы любім бедных, але Хрыстос. Ён любіць іх у нас, таму што хоча быць блізка да іх фізічна. Папа Францішак раіць, каб даваць міласціну ў духу любові да беднага: *"Мы не можам атаясамліваць міласціну толькі з манетай, кінутай у спешцы, не гледзячы на асобу, не спыняючыся, каб пагаварыць і зразумець, чаго яна на самай справе патрабуе"* (Францішак, Агульная аўдыенцыя, 9.04.2016).

### Шляхі міласэрнасці

Са Святога Пісання мы даведваемся, што ў хрысціянскай супольнасці апостальскіх часоў справа дапамогі бедным лічылася натуральным элементам жыцця вернікаў. Дастаткова ўзгадаць пра дзяленне матэрыяльнымі дабротамі (пар. Дз 4, 32 – 37), зборы ахвяраванняў для дапамогі ўбогім і іншым супольнасцям (пар. Дз 11, 29; 1 Кар 16, 1; Гал 2, 10) ці выбар дыяканаў для служэння бедным (Дз 6, 1 – 6). Вельмі часта пад паняццем "міласціна" мы разумеем матэрыяльную або грашовую дапамогу, забываючыся пры гэтым пра розныя шляхі міласэрнасці і любові да бліжняга.

У катэхізмах мы сустракаем пералік учынкаў міласэрнасці, праз якія хрысціяне пакліканыя падтрымліваць бліжніх у іх цялесных і духоўных патрэбах. Варта пра іх прыгадаць у нашым разважанні пра міласціну. Настаўляць грэшнікаў, вучыць тых, хто не ведае, раіць тым, хто сумняваецца, суцяшаць засмучаных, зносіць цярпліва знявагу, даравацъ ахвотна крыўду, маліцца за жывых і памерлых – гэта ўчынкі міласэрнасці для душы бліжняга. Другая група ўчынкаў міласэрнасці для цела бліжняга заключаецца ў тым, каб накарміць галодных, напаіць сасмаглых, апрануць голых, прыняць у дом падарожных, адведваць хворых, суцяшаць вязняў і пахаваць памерлых.

Міласціна – гэта акт любові адносна бліжняга, аднак нельга абмяжоўваць яе толькі да грошай, бо шляхоў міласэрнасці ў свеце вельмі шмат, а тых, хто ў патрэбе, мы можам сустрэць не толькі на вуліцах гарадоў або вёсак, а значна бліжэй, часам у нашым доме, пад'ездзе ці нават памяшканні... Усмешка, парада, прабачэнне, добрае слова, размова, зычлівасць, спагада ці простая дапамога (у тым ліку ў вучобе або працы), якія мы можам падараваць бліжняму – гэта таксама праяўленне міласэрнасці, каторае патрабуе ад нас свайго кшталту фантазіі. Між іншым, учынкі міласэрнасці дапамагаюць чалавеку ўзрастаць і станавіцца вялікім, пра што натхнёна і прыгожа сказаў святы Ян Павел II: *"Чалавек вялікі не праз тое, чым валодае, але праз тое, кім ён ёсць: не праз тое, што мае, а праз тое, чым ён дзеліцца з іншымі"* (Ян Павел II, *Зварот да бедных раёна Тонда*, 18.02.1981).

Разважаючы пра міласціну і ўвогуле пра любоў да бліжніх, трэба таксама памятаць, каб не кіравацца ў дабрачыннасці толькі гуманітарнымі матывамі, бо хрысціяне пакліканы чэрпаць натхненне і сілу для ўсёй сваёй актыўнасці з веры, якая яднае з Богам – крыніцай і моцаю жыцця. У нашых вушах павінны заўсёды гучаць словы Езуса: *"Глядзіце, не чыніце справядлівасці вашай перад людзьмі, каб яны бачылі. Інакш не атрымаеце ўзнагароды ад Айца вашага, які ў нябёсах. Калі даеш міласціну, не трубі перад сабою, як робяць крывадушнікі ў сінагогах і на вуліцах, каб людзі хвалілі іх. Сапраўды кажу вам: яны атрымліваюць сваю ўзнагароду. Калі даеш міласціну, няхай не ведае твая левая рука, што робіць правіца твая, каб міласціна твая была патаемнай. А твой Айцец, Які бачыць патаемнае, аддасць табе"* (Мц 6, 1 – 4).

### Каму і як даваць міласціну

Анастасія піша пра маральныя сумненні, якія ўзнікаюць у яе пры сустрэчы з тымі, хто просіць у яе дапамогі. Мяркую, што падобныя ўнутраныя праблемы перажываюць многія, незалежна ад веравызнання ці светапогляду. Яны таксама маюць дакоры сумлення, калі па нейкіх матывах не даюць міласціну. Касцёл, паслухмяны запавету Езуса Хрыста, пастаянна прыгадвае пра годнасць кожнага чалавека і абавязак усіх вернікаў дапамагаць тым, хто ў патрэбе. Аднак няма нормаў ці правілаў, якія б канкрэтна вызначалі межы і адрасатаў міласэрнасці. Тут кожны павінен сам у сваім сумленні прымаць адпаведныя рашэнні. Яшчэ ў старажытнасці хрысціяне разумелі, што не варта даваць міласціну зламысным, нястрыманым або лянівым людзям (пар. Апостальскія пастановы, II, 1-63; III, 4-6). Трэба сказаць, хоць з болем, што сярод тых, хто просіць аб дапамозе, ёсць людзі, якія жабрацтва зрабілі ладам жыцця. Ёсць людзі, якія распавядаюць, што ведаюць сітуацыі, калі выкарыстоўваюць бедных, дзяцей ці жанчын для збірання грошай для кагосьці, хто сам не з'яўляецца бедным.

Іншая катэгорыя – асобы, якія злоўжываюць алкаголем, што стаў для іх сур'ёзнай перашкодай да сапраўды шчаслівага жыцця. Мы адчуваем сябе некамфортна, праходзячы каля іх, ды не маем упэўненасці, як паступіць. З аднаго боку, ведаем, што як хрысціяне мы павінны практыкаваць міласэрнасць да бліжняга, які ў патрэбе. Але з іншага боку, усведамляем, што ёсць "убогія", якія спрабуюць як бы "вымагаць" у нас грошы на алкаголь ці наркотыкі. Некаторыя тэолагі-маралісты мяркуюць, што фінансавая дапамога такім людзям спрычыняецца да павелічэння паталагічных паводзін, таму нельга яе лічыць актам міласэрнасці. Папа Францішак сцвярджае, што фінансавая дапамога беднаму заўсёды павінна быць часовым рашэннем для задавальнення надзённых патрэбаў, каб пазней паспрыяць беднаму годна жыць і працаваць (пар. Францішак, Энцыкліка *Laudato si'*, 128). Аднак той самы Папа ў іншым месцы сказаў: *"Колькі людзей апраўдвае сябе, кажучы: чаму я павінен даваць грошы чалавеку, які адразу ж пойдзе купіць віно, каб напіцца. Калі ён напіваецца, то таму, што не мае іншага шляху. А што ты робіш, укрыты адзін, калі ніхто цябе не бачыць? І ты – суддзя гэтага беднага чалавека, які просіць у цябе грошай на келіх віна?"* (Францішак, Агульная аўдыенцыя, 9.04.2016). Безумоўна, Папа не заахвочвае даваць грошы на алкаголь, але перасцерагае тут перад асуджэннем такіх людзей.

Адказваючы на пастаўленае ў лісце пытанне, я пацікавіўся таксама меркаваннем нашых семінарыстаў на гэтую тэму. Вопыт некаторых з іх можа быць карысным для вернікаў. Амаль усе навучэнцы нашай пінскай семінарыі прызнаюцца, што пры сустрэчы з беднымі імкнуцца высветліць іх сітуацыю праз размову, што не заўсёды ўдаецца. Што датычыцца самой міласціны, то пераважна самі купляюць бедным ежу, калі яны пра гэта просяць, а проста так не даюць грошай. Дарэчы, цікава і тое, што не ўсе, хто просіць грошы на прадукты, згаджаюцца прыняць ежу. Я сам таксама сустракаўся з такім падыходам.

Кожны хрысціянін пакліканы дзяліцца з беднымі тым, што сам мае, аднак павінен рабіць гэта разважліва, беручы пад увагу розныя магчымасці, сярод якіх варта звяжаць на дабрачынныя арганізацыі і таварыствы, у тым ліку на дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас". Падобныя ўстановы нясуць разнастайную дапамогу бедным, хворым, пакрыўджаным, сіротам, асобам у асабліва складаных жыццёвых сітуацыях дзякуючы падтрымцы шматлікіх людзей добрай волі.

Калі мы разважаем пра міласціну, то варта задумацца менавіта над формай дапамогі тым, хто ў патрэбе, праз фінансавую або валанцёрскую падтрымку дабрачынных фондаў, арганізацый ці таварыстваў, якія не толькі нясуць надзённую дапамогу, але і прафесійна спрычыняюцца да вяртання чалавека ў паўнавартаснае жыццё. Пажадана таксама ведаць структуру і формы дзейнасці згаданых арганізацый, каб туды накіроўваць тых, хто мае патрэбу.

Як заканчэнне нашага разважання няхай паслужаць словы Папы Францішка з 94 нумару цытаванай ужо энцыклікі *Laudato si'*: *"Багатыя і ўбогія маюць аднолькавую годнасць, бо "Пан – Стварыцель усіх"* (Прып 22, 2), *"бо Ён стварыў малога і вялікага" (Мдр 6, 7) і "загадвае сонцу свайму ўзыходзіць над дрэннымі і добрымі"* (Мц 5, 45).

Усім чытачам "Каталіцкага Весніка" жадаю радасці ад удзелу ў дабрачыннасці ўсёй чалавечай супольнасці згодна са словамі Хрыста: *"Больш шчасця ў тым, каб даваць, чым у тым, каб браць!"* (Дз 20,35).

*З павагай і просьбай аб малітве*
***а. Аркадзь Куляха OCD***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*Віншуем **біскупа Алега Буткевіча** з 5-годдзем біскупскага пасвячэння!*

***Паважаны біскуп Алег!***



*Прыміце шчырыя віншаванні ад святароў, сясцёр законных і вернікаў катэдральнай парафіі Езуса Міласэрнага ў сувязі з пятай гадавінай біскупскага пасвячэння! 18 студзеня 2014 года, калі Вы згадзіліся верна і няспынна абвяшчаць Евангелле Хрыстова, у еднасці з усімі біскупамі будаваць Яго Касцёл, быць міласэрным і ўбогім і захоўваць непарушным скарб веры, Віцебская дыяцэзія атрымала свайго пастыра.*

*З таго дня прайшло ўжо пяць гадоў, зроблена шмат працы на карысць дыяцэзіі, можна падвесці першыя вынікі. Спадзяёмся, што з Божай дапамогай Вам удаецца рэалізоўваць задуманае, і біскупкае служэнне з усімі яго цяжкасцямі і выпрабаваннямі прыносіць адпаведны плён. Жадаем Вам моцнага здароўя, поспехаў у працы, разумення Божай волі, мудрых рашэнняў, любові і міласэрнасці да ўсіх людзей, якія сустракаюцца на Вашым шляху!*

*Няхай жа споўніцца Ваша мара – і ў цэнтры Віцебска на гістарычным месцы паўстане касцёл Святога Антонія! Жадаем новых пакліканняў з віцебскай зямлі і моцных духам святароў! Няхай будуюцца святыні і адчыняюцца дзверы дабрачынных каталіцкіх арганізацый! Няхай храмы на нашай зямлі будуць напоўненыя вернікамі, і вера іх будзе моцнай і шчырай!*

*А яшчэ жадаем, каб у Вас атрымалася пабудаваць галоўную святыню кожнага чалавека – як верніка, так і святара – храм уласнага сэрца, прасты і ўтульны, напоўнены радасцю, спакоем і любоўю, храм з непахіснымі сценамі, дзе галоўнае і адзінае месца займае Пан Бог.*

*Дзякуем за дапамогу і пастырскае служэнне ў нашай супольнасці! Мы заўсёды рады Вас бачыць!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі, святары, законныя сёстры парафіі Езуса Міласэрнага, г. Віцебск***

## Хвала Хрысту!

*Ваша Эксэленцыя, **ксёндз-біскуп Алег Буткевіч**!*

*Дазвольце павіншаваць Вас з нагоды чарговай гадавіны атрымання біскупскай сакры! Жадаем моцнага здароўя на доўгія гады, радасці на кожны дзень, моцнай веры, апекі Маці Божай Валадаркі Азёраў!*

*Жадаем добрых працаўнікоў на ніве Пана: святароў, сясцёр законных, самых добразычлівых людзей, адданых Богу і касцёлу. Няхай у Вашым сэрцы заўсёды будзе міласць да ўсіх людзей, а святло Духа Святога хай дапамагае ў вырашэнні ўсіх штодзённых спраў!*

***Святары, сёстры законныя, вернікі Санктуарыя Маці Божай Валадаркі Азёраў***

## Віншуем і дзякуем!

*19 студзеня – імяніны ў нашага любага пробашча **ксяндза Генадзя Ляўкова**.*



*Шаноўны ксёндз Генадзь!*

*Ад усяго сэрца віншуем Вас з гэтай нагоды і жадаем моцнага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, апекі Панны Марыі, дароў Духа Святога. Дзякуем Вам за глыбокую веру, за аптымізм і чуласць, за плённую працу на карысць Касцёла і парафіі!*

*Мы заўсёды адчуваем цеплыню Вашага сэрца і будзем шчыра маліцца, каб Вам і Вашым бацькам Божая міласэрнасць спадарожнічала ўсё дальнейшае жыццё!*

***Хай будзе плённым Ваша пакліканне!***
***Хай Вас атуліць Божая любоў!***
***І хай супольнасць наша называе Вас***
***Славутым нашым святаром!***

***Удзячныя парафіяне касцёла св. Апосталаў Пятра і Паўла (аг. Дрысвяты, Браслаўскі раён)***

## Хвала Хрысту!
## Шаноўны ксендз Адам Кватко́ўскі!



*Шчыра віншуем Вас са святам Божага Нараджэння і з Днём Вашага Нараджэння (25 снежня)! Жадаем Вам вялікай любові ад маленькага Езуса, апекі Маці Божай, штодзённай апекі святога заступніка, моцнага здароўя, нястомнасці на святарскім шляху.*

*Выказваем Вам, шаноўны ксёндз, вялікую пашану і ўдзячнасць за ахвярнае служэнне ў нашай парафіі, за змястоўныя казанні, за сумесныя малітвы, за разуменне, любоў і павагу да людзей.*

***Удзельнікі малітоўнай групы "Маці ў малітве" Санктуарыя Маці Божай Валадаркі азёраў у Браславе***

## Віншуем!

*31 студзеня ў нашага любімага **ксяндза Юрыя Жаўняровіча** Дзень нараджэння.*

*Мы сардэчна віншуем ксяндза Юрыя і шчыра дзякуем яму за чалавечнасць, за адкрытасць і вялікую адданасць святой справе! Няхай добры Бог дапамагае Вам, шаноўны ксёндз Юрый, здзейсніць усе мары і задумы, а Маці Божая хай заўсёды атуляе сваёй любоўю і апекай!*

*Дасылаем нізкі паклон і словы ўдзячнасці Вашым бацькам з пажаданнямі моцнага здароўя і даўгалецця!*

***Удзячныя вернікі парафіі Маці Божай Анельскай з Замошша***

## Слава Иисусу Христу!

*31 января – День рождения у нашего уважаемого **ксендза Юрия Жолнеровича**.*

*Пусть небо покроется славой Небесного Отца, пройдёт дождь в виде обильных благословений, порывистый свежий ветер Духа Святого унесёт все беспокойства, тревоги, печали с Вашего пути! Здоровья, успехов, Божьего благословения!*

*Уважаемый ксёндз Юрий, с Днём рождения!*

***С уважением и благодарностью, прихожане костёла в д. Ахремовцы Брасловского р-на***

***

Не віншуйце мяне ў дзень нараджэння,
Не шукайце мне прыгожых слоў.
Я не хачу жыццё разменьваць на імгненні,
Хачу пражыць, не лічачы гадоў.

Быў час, калі не мела аднадумцаў,
Не падабалася маё нямоднае імя.
Услед кідалі жарты – прыйшла з літаратуры,
Такой у жыццёвай прозе месц няма.

І сапраўды, у жыццёвай прозе было цяжка,
Але ў маёй літаратуры быў прэстыж.
Сваёй бяды другім за спіны не хавала
І на чужыя плечы не ўзвальвала свой крыж.

Шматтомнікі жыццёвай прозы прачытаны,
Апошнія дачытваю цяпер.
За ўсё заплачана вялікаю цаною,
А асабліва за давер.

Магчыма, я і зараз не з жыццёвай прозы,
Прашу, не дакарайце зноў.
Мая літаратура – вера ў Бога,
Узятая ў дзяцінстве ад бацькоў.

Прашу вас, родзічы і аднагодкі,
Прыміце мой, мабыць, запознены паклон.
І просьбу, што гадамі дасьпявае:
Каб адзваніў па мне касцельны звон!

Наш, задарожскі, родны, важкі,
Якога слухалі дзяды.
Каб чула неба, чула школа,
І лес, пасаджаны ў школьныя гады.

*Рамуальда Асвяцінская (Пяткевіч)*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*7 студзеня дзень нараджэння адзначыў наш пробашч **ксёндз Павел Кнурэк**. З гэтай нагоды хочам яшчэ раз павіншаваць шаноўнага пробашча і са старонак "Каталіцкага Весніка" перадаць яму самыя лепшыя пажаданні і самыя шчырыя словы падзякі.*

*Паважаны ксёндз Павел! Шчыра віншуем Вас з днём нараджэння і жадаем моцнага здароўя, шмат радасці і любові, жыццёвых сіл і мужнасці ў выпрабаваннях, Божай дапамогі ва ўсіх справах і плёну ў святарскай працы! Няхай Пан Бог аддзячыць Вам за ўсе добрыя справы, пачатыя ў нашай парафіі, а мы абяцаем падтрымку і малітву аб патрэбных ласках для Вас! Усяго найлепшага, дарагі пробашч!*

***З павагай, вернікі парафіі Езуса Міласэрнага, г. Віцебск***

## Удакладненне з Новалукомля

Мы, вернікі парафіі Святой Марыі Магдалены ў Новалукомлі, хочам удакладніць інфармацыю адносна нататкі ў снежаньскім нумары "Каталіцкага Весніка". У нашай парафіі працавалі ксяндзы: ксёндз-пралат Мечыслаў Янчышын, ксёндз Юрый Жаўняровіч, ксёндз Генадзь Блізнюк і ксёндз Аляксандр Баран. Клерык Раман Мурзіч і дыякан Славамір Самковіч працавалі вельмі нядоўгі час – у пачатку 2000-га года.

Усё гэта я ведаю дасканала, таму што стаяла ля вытокаў станаўлення парафіі. У канцы 1996-га года мы з Андрэем Мычыкам вышуквалі па горадзе католікаў, збіралі подпісы, каб у Новалукомлі ўтварыць каталіцкую парафію. Было гэта нялёгка і няпроста, бо ў гэтых мясцінах панавала бязвер'е. Затым усю сабраную дакументацыю я вазіла спачатку ў Чашнікі ў райвыканкам, а затым у Віцебск, у аблвыканкам, каб улады далі згоду на рэгістрацыю парафіі. Нарэшце 3 сакавіка 1998-га года парафія была зарэгістравана пад назвай Святой Марыі Магдалены.

Усе святары, якія працавалі ў нас, былі вельмі мудрыя, адказныя і працавітыя асобы, якім давялося тут зусім нялёгка. Шмат фізічных і духоўных сіл укладвалі яны, каб з руінаў былой гарадской кацельні, якую мы выкупілі, будаваць касцёл. Будавалі не толькі сцены касцёла, але і "касцёл" у душах людзей. Апошнім у нашай парафіі амаль шэсць гадоў працаваў ксёндз Аляксандр Баран. Гэта ў яго бытнасць ладзіліся кожны год пілігрымкі. Нашы дзеці і дзеці з парафіі Перамянення Пана ў Чашніках некалькі разоў ездзілі за мяжу: у Літву, Латвію, Польшчу, Чэхію. Незабыўныя пілігрымкі парафіян з Оршы, Чашнікаў, Новалукомля ў Літву, Латвію і Польшчу, пілігрымка "Шляхам Яна Паўла ІІ". Усё ў нашай парафіі было! За час працы ксяндза Аляксандра шмат дзетак прыступіла да Першай Камуніі, многа дарослых – да бежмавання. Кожны год былі фэсты. А як прыгожа было ў нас, калі адбывалася перэгрынацыя абраза Маці Божай Фацімскай! Ладзіліся выставы духоўнай літаратуры, былі сустрэчы святароў. На прыкасцельнай тэрыторыі пасаджаны дэкаратыўныя дрэвы і кустарнікі, мноства кветак. Парафія расла і развівалася.



Дарагі ксёндз Аляксандр! Мы, парафіяне, усё памятаем! Як Вы тры гады жылі ў непрыгоднай да жыцця халоднай плябаніі, як Вы радаваліся, калі нарэшце падвялі газ, калі зрабілі капліцу Маці Божай. Памятаем, якія планы ў Вас былі на будучыню. Цяпер Вы працуеце ў іншай парафіі. Жадаем Вам моцнага здароўя, душэўнага камфорту, плёну ў святарскім пакліканні, у душпастырскай працы, добрых і зычлівых парафіян. Няхай Пан Бог бласлаўляе і дапамагае Вам ва ўсіх Вашых планах і задумках! Няхай Вашы цяперашнія парафіяне любяць і паважаюць Вас так, як любілі Вас мы!

***З павагай і перапрашэннем ад усёй парафіі, Алена Юркайць***

# Як падрыхтавацца да першай у жыцці споведзі?

***"Хвала Хрысту! Буду першы раз прыступаць да споведзі. Скажыце, калі ласка, што трэба гаварыць, якім чынам называць грахі, як увогуле адбываецца споведзь? Дзякуй.** Вікторыя".*

– Хвала Хрысту, шаноўная Вікторыя! Вялікі Вам дзякуй, за такое істотнае і цікавае пытанне. Кожная споведзь з'яўляецца важным момантам у духоўным жыцці, а тым больш першая. Вам неабходна звярнуцца да святара, які працуе ў вашай мясцовасці, і ён падрыхтуе Вас больш дасканала да гэтага сакраманту.

А каб распачаць адказ на пытанне, мне б хацелася працытаваць прарока Сафонія (Саф 3, 14-15): "Радуйся, дачка Сіёна! Трыумфуй, Ізраэль! Весяліся і радуйся ад усяго сэрца, дачка Ерузалема! Адмяніў Пан прысуд над табою, прагнаў ворага твайго! Пан, кароль Ізраэля, пасярод цябе: ужо больш не ўбачыш зла". З гэтага ўрыўка мы бачым, што прабачэнне Бога робіць радасным жыццё абранага народа. Таксама адбываецца і з намі: Пан Бог у споведзі і шчырым пакаянні нашых грахоў адмяняе прысуд і прабачае нам, робіць нашае жыццё радасным. Але гэта павінна быць падрыхтаваная, асэнсаваная споведзь, са шчырым пакаяннем, не звычайнае пералічванне грахоў, альбо "аўтакананізацыя", пералічванне добрых учынкаў ці таго, чаго я не зрабіў.

Мы ведаем, што споведзь адбываецца пры пэўных умовах. Існуе пяць умоў добрай споведзі: рахунак сумлення, жаль за грахі, цвёрдае пастанаўленне выправіцца, шчырая споведзь, выкананне вызначанай пакуты.

Але як падрыхтавацца да гэтага сакраманту? Перш за ўсё, трэба ўсвядоміць, што споведзь – гэта не звычайная размова са святаром. Такая размова можа быць вельмі даверальнай, у ёй можна закрануць нейкія жыццёвыя сітуацыі, атрымаць парады, але сакрамант споведзі прынцыпова адрозніваецца ад простай гутаркі. Споведзь напоўнена глыбокім маральным сэнсам.

> **"Перш за ўсё, трэба ўсвядоміць, што споведзь – гэта не звычайная размова са святаром"**

Каб падрыхтавацца да споведзі, найперш неабходна вельмі добра паразважаць над сваім жыццём альбо над тым пэўным часам, з якога Вы жадаеце паспавядацца. Трэба ўсвядоміць свае грахі. Вядома, што існуе мноства падрыхтаваных рахункаў сумлення перад споведдзю, можна скарыстацца гэтым.



Разважаючы над выкананнем Божых запаведзяў, таксама можна падрыхтавацца да сакраманту споведзі, бо яны адлюстроўваюць Божую задуму адносна праведнасці і маральнасці чалавечага жыцця. Можна таксама перачытаць урывак Евангелля паводле Мацвея (Мц 5, 1-12), дзе Езус пералічвае тых, хто з'яўляецца благаслаўлёным, святым у пэўным сэнсе. А мы ведаем, што нашае жыццё і ёсць дарогай да святасці. І калі мы перачытваем гэты ўрывак, то знаходзім адказ на пытанні, што варта лічыць грахом.

Вельмі важна не зрабіць з сакраманту святой споведзі простую фармальнасць. Трэба ўсвядоміць сабе, што ў момант споведзі я не сустракаюся з ксяндзом, які можа часам нават мне не падабацца, а сустракаюся з Богам у Яго вялікай Міласэрнасці.

Не трэба доўга разважаць пра тое, як сфармуляваць свае словы, каб назваць свой грэх правільна, выкарыстоўвайце звычайную і простую мову. Памятайце, што Бог ведае пра нашыя грахі больш, чым мы самі. Галоўныя пытанні, якія неабходна закранаць на споведзі, павінны быць таксама прысвечаныя Вашым адносінам з Богам і з бліжнім.

І ўрэшце, неабходна таксама зразумець, што мяняць сваё жыццё належыць яшчэ да споведзі. Сапраўднае пакаянне пачынаецца задоўга да споведзі і патрабуе вялікай духоўнай працы розуму і сэрца. Бо перш чым прасіць прабачэння ў Бога, папрасіце прабачэнне ў тых, каго Вы пакрыўдзілі, а самі прабачце тым, хто пакрыўдзіў Вас.

***З павагай,***
***кс. Аляксей Ляшко***
***(афіцыял Біскупскага Суда)***

# Якую Біблію лепш набыць?

***"Хвала Хрысту! Хачу купіць сабе Біблію і пачаць чытаць. Ведаю, што ёсць шмат розных перакладаў і рэдакцый. Якую параіце набыць?** Павел".*

– Хвала навекі! Сапраўды, калі сустракаеш розныя пераклады Біблії, то паўстае пытанне: якія з іх больш "правільныя", г.зн. кананічныя?

Каталіцкі канон – гэта 73 натхнёныя кнігі: 46 – Стары Запавет і 27 – Новы Запавет. Гэта вельмі важна, таму што калі чытаем кананічнае Святое Пісанне, мы ўпэўненыя, што пазнаём аўтэнтычнае Слова Бога. Гэты канон з'явіўся з патрэбы даведацца, якія з шанаваных рэлігійных габрэйскіх і хрысціянскіх пісанняў сапраўды Божага паходжання. Адметнай рысай усіх існых беларускіх біблійных перакладаў з'яўляецца канфесійнасць. Розныя хрысціянскія вызнанні маюць свае пераклады Біблії, паколькі ў іх свой падыход, свая тэрміналогія і рэлігійная лексіка. З даследавання працэсу фарміравання розных перакладчыцкіх падыходаў да біблійнага тэксту вынікае, што ў Беларусі існуюць дзве моцныя перакладчыцкія традыцыі – Slavia Latina і Slavia Ortodoxa (заходняя і ўсходняя традыцыя), што з'яўляецца своеасаблівым культурным і духоўным багаццем нашага народа.

Для Беларусі 2017 год быў знамянальным з прычыны 500-годдзя першай друкаванай кнігі на беларускай мове, якой стала Біблія Францішка Скарыны. З гэтай нагоды Секцыя па перакладзе літургічных тэкстаў і афіцыйных дакументаў Касцёла Камісіі Божага Культу і Дысцыпліны Сакрамантаў пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі падрыхтавала першы поўны афіцыйны пераклад на беларускую мову кніг Новага Запавету.




**Мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч перадае ў дар пераклад Святога Пісання епіскапу Маладзечанскаму і Стаўбцоўскаму Паўлу.** *Фота Віталія Палінеўскага, Catholic.by*

Я асабіста раю набываць кананічную Біблію, таму што католік павінен быць упэўнены ў тым, што пазнае аўтэнтычнае Слова Бога. Трэба памятаць, што розныя версіі перакладу кананічнага тэксту Біблії даюць розныя магчымасці погляду на тэкст, але сутнасць Евангелля не трацiцца і не змяняецца!

Няхай чытанне і разважанне над Божым словам на роднай мове спрыяе ўзрастанню веры і ўзаемнай любові!

***а. Аляксандр Махнач SP,***
***піяр з Ліды***

# В чём заключается смысл благословения?

**Благословение – это акт богопочитания, посредством которого мы призываем Бога, чтобы Он передал нам Свои дары. Благословить – значит "говорить благо, говорить хорошо" о Боге. Признавая Его чудеса и чудеса, явленные Им в святых, особенно в Деве Марии, мы просим Его о милосердии.**

В Ветхом Завете большое значение придавалось благословениям патриархов, наших отцов по вере. В Книге Бытия повествуется о проклятии и благословении Ноя: "И сказал: проклят Ханаан; раб рабов будет он у братьев своих. Потом сказал: благословен Господь – Бог Симов; Ханаан же будет рабом ему" (Быт 9,25). Люди верили, что благословения и проклятия настолько действенны, что они, будучи обращены к родоначальникам, осуществляются в их потомках.

Вспомним о благословении, которое Авраам получил от Мельхиседека: "Благословен Аврам от Бога Всевышнего, Владыки неба и земли; и благословен Бог Всевышний, Который предал врагов твоих в руки твои" (Быт 14,19). Авраам уже получил от Бога обетование стать отцом многочисленного потомства, и после благословения Мельхиседека это обетование исполняется. Итак, благословение – это эффективное и непреложное слово: даже когда его произносит человек, благословение исходит от Бога.

О непреложности благословения в Ветхом Завете свидетельствует эпизод, в котором Исав просит Исаака отозвать благословение, данное Иакову: "И вострепетал Исаак весьма великим трепетом, и сказал: кто ж это, который достал дичи и принес мне, и я ел от всего, прежде нежели ты пришел, и я благословил его; он и будет благословен. Исав, выслушав слова отца своего, поднял громкий и весьма горький вопль и сказал отцу своему: "Отец мой! благослови и меня". Но он сказал: "Брат твой пришел с хитростью и взял благословение твое". В Ветхом Завете произнесенные один раз благословения нельзя отменить.

По словам святого Григория Великого, благословение Бога патриархам заключается в Его дарах и их приумножении. Святой Фома Аквинский писал о благословении, которое можно дать, испрашивая каких-либо милостей. Благословение, посредством которого передаются дары, исходит от Бога, и благо достигает Его созданий. Но благословение исходит также от служителей Бога, когда



они призывают на Народ Божий имя Господне: "Так пусть призывают имя Мое на сынов Израилевых, и Я благословлю их", – говорит Господь Моисею (Числ 6,27). Иногда благословения, исходящие от служителей Божиих, придают священный характер тому, на кого или на что они направлены, то есть наделяют человека или предмет уже не мирским, а Божественным предназначением: например, благословение аббатисы монастыря или благословение каких-либо предметов.

Благословение, которое взывает к какому-либо благу или желает для кого-либо милостей, могут произносить все, в том числе и миряне. В этом случае благословение является жестом любви к ближнему.

*Радио Ватикана*

# Трудные вопросы: обезболивающие и вакцины

**"Правда ли, что до недавнего времени Католическая Церковь запрещала вакцинацию и обезболивающие наркотические средства? Существуют ли какие-то официальные документы Церкви на этот счёт?"**

Не существует ни одного документа Учительства Церкви, свидетельствующего о таких запретах. Что касается прививок, то можно обратиться к Словарю нравственного богословия выпуска 1955 года. В нем утверждается, что, несмотря на возможные побочные явления, иногда достаточно тяжелые (например, случаи энцефалита после прививок против оспы), медицинская статистика свидетельствует о полезности прививок. Таким образом, гласит статья в богословском словаре, "неправы врачи, которые заявляют о бесполезности прививок. Посредством таких утверждений они способствуют отказам от вакцинации, содействуя тем самым возвращению или дальнейшему развитию опасных эпидемических очагов".

Позитивное суждение о программах вакцинации и поиске новых вакцин высказал Папа Бенедикт XVI в 2007 году в речи к министрам финансов.

Что касается обезболивающих препаратов, то существует документ Папы Пия XII, в котором он говорит о нравственной допустимости как для врача, так и для пациента использования наркотических средств для облегчения боли в случае приближения смерти, даже если известно, что эти препараты ускорят наступление смерти. Ибо в таком случае, поясняет Папа Пий XII, речь идет "не о жажде смерти и стремлении к ней, хотя риск смерти по обоснованным причинам допускается, но только о желании смягчить боль применением анестезирующих средств, созданных медициной". Документ называется "Ответ на 3 вопроса, поставленных Итальянским обществом анестезиологии".

В "Декларации об эвтаназии" Конгрегация Вероучения также утверждает, что "в данном случае речь не идет о содействии наступлению смерти". Папа Иоанн Павел II в энциклике "Evangelium Vitae" пишет, что пациент, добровольно отказывающийся от обезболивания, чтобы сознательно участвовать в страданиях Господа, заслуживает похвалы, но такое героическое поведение не является обязательным для всех (EV 65).

В этом же параграфе Папа добавляет: "Не следует отнимать сознание у умирающего без серьезных причин: на пороге смерти люди должны быть в состоянии исполнить свои нравственные и семейные обязанности, а главное – иметь возможность сознательно приготовиться к окончательной встрече с Богом". Недопустимо практиковать наркоз пациента против его воли, когда он в состоянии ее изъявить.

*Русская редакция Vatican News*

# Кто, кроме священника, может раздавать Причастие?

**В последние годы понтификата Иоанна Павла II было опубликовано руководство Конгрегации по богослужениям и дисциплине Таинств "Redemptoris Sacramentum". Этот документ посвящен совершению Евхаристии и предупреждению различных злоупотреблений.**

В тексте уточняются некоторые аспекты чрезвычайного служения. Во-первых, отмечается, что служителем, который может совершать Таинство Евхаристии in persona Christi, является исключительно священник, рукоположенный действительным образом. Поэтому, конечно, служителем Евхаристии является только священник. В силу рукоположения, гласит далее текст, "ординарными служителями Святого Причастия являются епископы, священники и дьяконы", которые и должны преподавать верующим Причастие во время совершения Святой Мессы. Таким образом должно с верностью и полнотой проявляться их служение в Церкви и осуществление таинственного знака".

Далее говорится, что, помимо ординарных служителей, существует институт аколитов, которые осуществляют чрезвычайное служение Святого Причастия, в том числе и вне контекста Святой Мессы, например, когда речь идет о причащении больных. В 155 параграфе "Redemptoris Sacramentum" уточняется, что при возникновении особой необходимости епархиальный епископ может благословить и других мирян на чрезвычайное служение Причастия, и эти полномочия ограничиваются временем или конкретной ситуацией. Существует специальный чин благословения чрезвычайного служителя. Кроме того, упоминаются особые и непредвиденные случаи, когда священник, служащий Мессу, может дать одноразовые полномочия мирянину для раздачи Причастия.

Если на богослужении есть достаточное число рукоположенных служителей, которые могут обеспечить причащение всех верующих, то нельзя передавать это задание чрезвычайным служителям Причастия. В данных обстоятельствах даже те, кто специально были поставлены епископом на это служение, не должны причащать. "Достойна порицания, – читаем в инструкции, – практика священников, которые, присутствуя на литургии, воздерживаются от раздачи Причастия, возлагая это задание на мирян" (параграф 157).

Чрезвычайный служитель Святого Причастия может причащать верующих только если священник и дьякон отсутствуют или же когда священник не может этого делать по состоянию здоровья, из-за преклонного возраста или по другой серьезной причине, а также когда число прихожан, приступающих к Причастию, настолько велико, что причащение потребовало бы длительного времени. При этом, отмечается в документе, если такая "задержка" незначительна, то она не может быть достаточным основанием для вовлечения чрезвычайных служителей.

Никоим образом не допускается, чтобы чрезвычайный служитель Святого Причастия возлагал раздачу Причастия на кого-то другого, например, на родственника причащаемого больного.

Итак, священник не вправе воздерживаться от причащения, поручая это чрезвычайному служителю, а чрезвычайный служитель, в свою очередь, не может поручать это никому другому.

Однако священник может попросить мирянина находиться рядом с ним во время причащения, если вдруг понадобится какая-либо помощь. Это должен быть мирянин, который уже причастился, то есть в состоянии благодати.

Обратимся также к Общему наставлению к Римскому миссалу. "При Причащении верующих священнику могут помогать другие пресвитеры, которые окажутся на месте. Если таковых нет поблизости и число причастников очень велико, священник может призвать себе в помощники экстраординарных служителей, то есть поставленного аколита или даже других мирян, которым это надлежащим образом поручено. В случае необходимости священник может поручить это пригодным для этого верующим на каждый отдельный раз. Эти служители не подходят к алтарю, пока не причастится священник. Они всегда принимают сосуды, в которых содержатся евхаристические виды для преподания молящимся, из рук предстоятеля" (162).

Даже для каждого отдельного раза, о котором упоминается в тексте, предусмотрен короткий обряд, описанный в Римском миссале. В этих случаях чрезвычайного служителя следует выбирать не поспешно, то есть не первого, кто попадется под руку, а с надлежащим вниманием. В этом также проявляется величие и священный характер совершаемых Тайн.

***Ольга Сакун**, Русская редакция Vatican News*

# ПАЗНАВАЙКА

*Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!*

## ПАЗНАЕМ БІБЛІЮ РАЗАМ! ГІСТОРЫЯ КАІНА і АВЕЛЯ. ПРАВЕДНЫ НОЙ.

У Адама і Евы былі два сыны: Каін і Авель. Прачытай разам з бацькамі ў кнізе Быцця 4, 1-16, што здарылася паміж братамі.

Ці ведаеш ты чалавека, імя якога Ной? Гісторыю Ноя можаш прачытаць разам з бацькамі ў кнізе Быцця 6,8 – 7,24

**ЗАДАННЕ 1:** Знайдзі 10 адрозненняў на малюнках.



**ЗАДАННЕ 2.** Калі правільна разгадаеш рэбус, даведаешся, што стала прычынай граху Каіна. Літары, якія апынуліся ў чырвоных квадрацiках, запішы па парадку і прачытай, што атрымалася.




АДКАЗ: ___________________________________

**ЗАДАННЕ 3:** Калі правільна злучыш усе кропкі, даведаешся, што пабудаваў Ной разам са сваімі сынамі. Размалюй!



**ЗАДАННЕ 4:** Гісторыя Ноя незвычайная і цікавая. Ты добра запомніў яе? Давай праверым? Пастаў па парадку кожны малюначак, так як гэта адбывалася ў гісторыі Ноя. Каля кожнай ілюстрацыі пастаў патрэбную лічбу, ад 1 да 4



## ПАЗНАЁМ СВЯТЫХ: СВЯТЫ ВАЛЯНЦІН

**Святы Валянцін** быў біскупам у італьянскім горадзе Тэрні. Ён жыў у часы панавання імператара Клаўдзія і ў гэты час Рым быў уцягнуты ў крывавыя непатрэбныя войны, таму мужчыны не жадалі ісці ў армію. Гэта стала прычынаю таго, што імператар абвясціў забарону на жаніцьбу. Св. Валянцін не раз парушаў гэты абавязковы закон, патаемна ўдзяляючы шлюбы маладым. І за гэта каля 268 г. ён прыняў мучаніцкую смерць, бо абараняў Евангелле любові. Знаходзячыся ў турме, святы Валянцін яшчэ ўчыніў некалькі цудаў. Напрыклад, ён ацаліў дачку аднаго з ахоўнікаў. Таксама ёсць сведчанні, што біскуп ацаляў хворых на эпілепсію. Святы лічыцца апекуном добрага сужэнства; яго заступніцтва просяць таксама пры эпілепсіі і пры частых стратах прытомнасці.



**ЗАДАННЕ 5:** Як думаеш, што падабаецца Богу? **Гэтае словы ў Бібліі ўспамінаецца 5 разоў!** Перанясі літары ў вольныя квадраты, і ты даведаешся, што падабаецца Госпаду.




## МАЛІТВА

Божа, навучы мяне заўсёды быць паслухмяным Тваёй святой волі. Ведаю, што хочаш для мяне толькі найлепшага. Давяраю Табе ўсё сваё жыццё, і прашу: вядзі мяне, як любячы Айцец за руку, каб я ніколі не адышоў ад Цябе, бо Ты - найлепшы Айцец! Амэн.

*Мастачка:* ***Вольга Будкіна;*** *ідэя:* ***Вікторыя Колзун***

